
Ператоча - 2014 → 3

# Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ



„Нашанівец" з Меляшкоў → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

№ 32 (3039) Год LIX | Беласток, 10 жніўня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Гэй, прымацкая бяседа!

**Новы альбом «Ты думай, думай...» прадставіў у час сёлетняй, чацвёртай «Прымацкай бяседы» ў Міхалове гаспадар гэтага мерапрыемства калектыў «Прымакі». Упершыню таксама быў паказаны ягоны тэлеролік «Мой Беласточкі край». Побач беларускіх каманд з Беласточчыны выступілі зоркі з Беларусі, у тым ліку прадстаўніца краіны ў леташнім Еўрабачанні Алена Ланская ды папулярны кумір мінскай эстрады Аляксей Хлястоў. Майстэрства ігры на арыгінальных інструментах прадэманстраваў харызматычны Аляксандр Зубко з Мінска. І ўсё вельмі прафесійна арганізаванае, у новым атачэнні, адаптаваным для патрэб падзей у міхалоўскім гарадскім амфітэатры.**


Аляксандр Зубко


Алена Ланская

Ужо пасля ўезду ў Міхалова відаць змены. Надалей мадэрнізуюцца парк перад мэрыяй і пад'язныя дарогі да горада і на яго тэрыторыі (кошт інвестыцый у Міхалове за апошнія 10 гадоў складае суму 158 млн. злотых). За амфітэатрам адведзена больш свабоднага месца для мастакоў. Збоку пабудаваны асобны, пакрыты драўнінай, авальны аб'ект з памяшканнямі-гардэробамі. Дах новага базару за аўдыторыяй служыць як падстрэшак для гледачоў. Гэтыя і іншыя змены ў Міхалове сёлета супалі з пятай гадавінай з дня прысваення яму гарадскіх правоў. З гэтай нагоды таксама «Прымакі» выпусцілі новы кампакт-дыск (з фінансавай дапамогай з боку мясцовых улад). На ім апынулася трынаццаць твораў. Якраз перад інаўгурацыяй у гэтым годзе «Прымацкай бяседы» (2 жніўня) кіраўнік групы Юрка Астапчук расказаў нам пра новы альбом:

— Мы хацелі зрабіць неспадзяванку гледачам і слухачам «Прымацкай бяседы» і якраз тут вось упершыню прадставіць наш новы альбом. Я ведаю, што нашы прыхільнікі чакалі яго доўгі час. Ёсць на ім песні, якіх можна толькі слухаць і такія, да якіх можна танцаваць. У альбоме ёсць толькі адна песня, што мы спявалі раней: «Беластоцкі край». Што цікава, тут мы паказваем упершыню тэлеролік да гэтай песні, выраблены тут, у ваколіцах Міхалова, але не толькі. Гэта чацвёртая наша кружэлка. Першую касету, у той час не былі такімі папулярнымі кампакт-дыскі, выпусцілі мы ў 1995 годзе

Нягледзячы на спякоту, натоўпы гледачоў мелі магчымасць палюбавацца, між іншым, майстрам мультыінструменталістам, лаўрэатам шматлікіх міжнародных конкурсаў, салістам аркестра Нацыянальнага ансамбля танца РБ Аляксандрам Зубко, які — як здавалася — мог іграць на ўсім, а не толькі на ўдарных інструментах, але і прадметах побыту. Нам з асаблівымі эмоцыямі расказваў пра ксілафон:

— Гэта класічны музычны інструмент. Чалавек, які стварыў яго, гэта наш беларус — Мікола Гузікоў, а айчынай гэтага інструмента, на якім у цяперашні час іграюць у аркестрах па ўсім свеце, з'яўляецца Беларусь. Бацькам ксілафона захапляліся і Аляксандр Пушкін, і Франц Ліст. Іншы з інструментаў, на якім я іграю, гэта дыджэрыду, культавы, рытуальны інструмент абарыгенаў паўночна-ўсходняй Аўстраліі, але падобныя інструменты функцыянавалі і ў нашых продкаў.

Без сумневу, зоркай чацвёртай «Прымацкай бяседы» была Алёна Ланская. Некаторыя з ёй нават зрабілі сабе гэтак званыя саладкія фотачкі, падобна як і з іншым папулярным выканаўцам беларускай эстрады — Аляксеем Хлястовым. Ланская заспявала песню пра Беларусь, якою выйграла ў 2011 годзе фестываль «Славянскі базар» і тую, якую прадставіла на фестывалі Еўрабачання. Паміж выступленнямі сказала нам:

— З прыемнасцю прыязджаю ў Польшчу. Не першы раз я ў Міхалове. Ведаю па вопыце, што «Прымацкая бяседа» гэта малады фестываль і тут вельмі гасцінныя людзі. Я вельмі хачу тут людзям перадаць добрыя эмоцыі.

Прыгадала таксама фестываль Еўрабачання:

— Аб Еўрабачанні марыла я з дзяцінства. Заўсёды сачыла за гэтым конкурсам і заўсёды хацела там выступіць. Еўрабачанне ў жыцці кожнага мастака з'яўляецца знакавай падзеяй, гэта прыгода. Нельга, аднак, ставіцца да яго як да канкурэнцыі. Трэба цешыцца гэтай абстаноўкай, тым, што надаюць табе вялікую ўвагу. У той жа час мы павінны памятаць, якая гэта адказнасць: за табою стаіць краіна і мільёны гледачоў. Я не магу сказаць, што пасля Еўрабачання маё жыццё кардынальна змянілася. Даю надалей шмат канцэртаў, запісваю песні. Магчыма, Еўрабачанне зноў у маім жыцці паўторыцца.

У Польшчы чарговы раз быў пры нагодзе міхалоўскага мерапрыемства Аляксей Хлястоў:

— Для маёй мастацкай душы прыезд сюды гэта нейкае прыемнае натхненне.

З народнай беларускай музыкай прыехаў ансамбль «Росніца» з Гродна. Яго члены Аляксей Басікоў і Андрэй Станеўскі:

— Наша каманда была сфарміравана ў пачатку 1980-х. Звязаны мы з гродзенскім хімічным заводам «Гродназот». Ёсць сярод нас многія работнікі: механікі, токары... Спяваем песні, галоўным чынам, беларускія, у нас таксама ёсць іх крыху па-польску. Перш за ўсё, аднак, народныя, беларускія! Выступаем усюды, куды нас запрашаюць. Тут мы ўпершыню.

Было і ў гэтым годзе на «Прымацкай бяседзе» шмат беларускіх гуртоў з Беласточчыны, вядома, таксама і з самога Міхалова. Сярод апошніх былі «ўнучкі» «Прымакоў» з ансамбля «Спявай душа», які дзейнічае пад кіраўніцтвам Юркі Астапчука. Яго маладыя салісткі Валерыя (першы раз на «Прымацкай бяседзе») і Наталля (трэці раз):

— Спяваем беларускія песні, больш народныя, напрыклад, як «Гаварыла мама мне», і больш сучасныя.

Былі і «Чыжавяне», «Сказка», «Крыніца», гурт «Ас» ці самы малады ўдзельнік мерапрыемства Адрыян Данілюк і іншыя спевакі, вядомыя з беларускіх музычных мерапрыемстваў: Наталля Каліноўская ці Павел Макарэвіч. Данута Тымашэвіч з калектыву «Світанак»:

— Першы раз мы былі тут два гады таму. Не было рынку, была траўка і было файна. Людзі сядзелі сабе на пледзіках і адпачывалі. За амфітэатрам не было аўтастаянкі, была больш спрыяльная атмасфера бяседы. Для такой рэальнай бяседы цяпер не хапае тут месца. У мяне ёсць адчуванне, што два гады таму менавіта тут было больш мясцовых беларускіх калектываў. Некаторых нашых каманд, якія раней выступалі, няма ў праграме.

Гонару ад мерапрыемства не хаваў у размове з «Нівай» па-свойму бурмістр Марк Назарка:

— Мы хочам зрабіць усё, каб, па-першае, гэтая падзея была беларускай, а па-другое, людзі, якія прыязджаюць сюды, мелі добрыя ўмовы для таго, каб весела правесці час і расслабіцца, і кожны год мы хочам зрабіць так, каб гэты фэст быў на ступень лепшы.

Падчас «Прымацкай бяседы» («Ніва» трымала сёлета над ёю патранаж) быў зачытаны ліст ад міністра культуры РБ Барыса Святлова і ўлад сябруючага з Міхаловам Ваўкавыска. Былі прысутныя, між іншым, дэпутаты, улады суседніх гмін і іншых мясцовых органаў улады, прадстаўнікі Генконсульства Беларусі ў Беластоку і Пасольства РБ у Варшаве, уключаючы амбасадара Аляксандра Аўр'янава, які са сцэны амфітэатра заявіў:

— Маем няпростыя часы, калі ў свеце трывожна. Але калі людзі спяваюць разам на сцэне, маўчаць гарматы.

Традыцыйна, кухары пяклі на рашотках спераду і ззаду сцэны парасят, арганізавалі конкурсы для публікі і шэраг іншых атракцыёнаў, у тым ліку феерверкі. Забава з танцамі перад сцэнай доўжылася да позняй ночы. «Прымацкую бяседу» сарганізавалі сіламі мэрыі і Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове пры саўдзеле Беларускага грамадска-культурнага таварыства, з дапамогай Культурнага цэнтра Беларусі, а таксама пры фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Людзі і чалавечкі

Разумных народаў на свеце, праўдападобна, не засталося. Не толькі мы, беларусы, такія недалёкія. Заакіянскія амерыканцы двойчы выбіраюць на свайго прэзідэнта Абаму, еўрапейскія французы — Аланда. Не буду тут расшыфроўваць — sapienti sat. Украінцы не так даўно выбралі Януковіча, за што нацыя ўжо заплаціла дарагую цану ў сотні, а можа ўжо і тысячы жыццяў. Большасць беларусаў сваю жорсткую памылку зрабіла дваццаць гадоў таму. За гэтыя 20 гадоў жыццё адкінула ў развіцці дзяржаву Беларусь на многія дзесяцігоддзі. А галоўнае — адкінула людзей у развіцці. У мысленні, у разуменні, у асэнсаванні свайго існавання на гэтай зямлі. У выніку — знешне нібыта здаровыя людзі з нейкім перакручаным, збочаным, алагічным і абсурдным мысленнем. Вось стаіць група людзей у чарзе ў банку: абмяркоўваюць міжнародныя навіны, апошнімі словамі праклінаюць амерыканскую знешнюю палітыку і тут жа ўслед адзін за адным скупляюць... амерыканскія долары. Хіба гэта не від шызафрэніі, раздваення ў адной галаве? Такія вось зялёныя чалавечкі: Амерыку зацята ненавідзяць, долар — любяць больш за родных брата з сястрою. Еўропу ненавідзяць — і ўсе як адзін катаюцца на іншамарках. Ніхто ў гісторыі столькі для вынішчэння беларусаў не зрабіў як Расія з Нямеччынай. Але вось прыходзіць які-небудзь спартовы форум і sapienti sat народ — канешне — заўсёды за „старэйшага брата", ну а так званая эліта — за Германію. Бэсціць польскія парадкі і аднačасна ляцяць па „Карту паляка", а ў каго не знайшлося нават прапрадзеда, ахрышчанага ў касцёле, душацца ў чэргах па запаветную шэнгенскую візу. Беластоцкія супермаркеты перапоўнены грамадзянамі Беларусі, якія скупляюць усё запар і ўсімі праўдамі і хітрасцямі валакуць пасля праз мяжу да сябе.

І так ва ўсім. Працуюць хіба найбольш з усіх еўрапейскіх народаў, матэрыяльна жывуць — хіба найгорш на кантыненце. Але кажуць, што добра, што ўсё ёсць, што няма вайны. Скажаце — узорны хрысціянскі мінімалізм. Але ж не туды тое, бо паўсюль скваліласць, зайздрасць і імкненне ўварваць хоць што на халяву.

Ці возьмем сферу паслуг. Выклікаеш якога-небудзь сантэхніка, ён тры дні да цябе едзе, а потым, прыехаўшы, паводзіць сябе як нейкі прафесар мікрабіялогіі: ходзіць з важным выглядам і ўрэшце кажа, што нічога зрабіць немагчыма. А калі магчыма, то гэта так складана, што будзе патрабаваць тыдня падрыхтоўкі, яшчэ столькі ж часу працы, ну і будзе каштаваць месячную заработную плату таго ж прафесара мікрабіялогіі. Ну і на канец, калі ўсё зробіць (пра якасць тут маўчым), то нечакана высвятляецца, што матэрыялы і праца ў паўтара раза падаражэлі. Безумоўна, трапляюцца і іншыя спецыялісты, сапраўдныя майстры свайго справы, якія і дакладныя як швейцарскі гадзіннік, і сваю справу ведаюць дасканала. Але такія ўсюды ў меншасці. Большасць — гэта тыя самыя зялёныя чалавечкі, якія сядзяць у балоце і з твані сваёй вылазіць не хочуць. Адурманеныя расійскай прапагандай, яны вераць тэлевізару болей, чым голасу элементарнага розуму. Але і тут раздваенне ў галаве — расіян яны таксама ненавідзяць. Гэтыя беларускія вечныя „партызаны" часта маўчаць, але маскоўцаў яны таксама не любяць. Яны ўвогуле нікога не любяць, нават у межах сваёй краіны: заходнікі пагардліва ставяцца да ўсходнікаў, усходнікі не цярпяць гарадзенцаў ды берасцейцаў.

Цяжка любіць свой народ, асабліва калі табе цэлы час з гэтым народам не па дарозе, не ў нагу. Асабліва цяжка, калі народ выракаецца роднай мовы. Пімен Панчанка незадоўга да сваёй смерці ў адчаі адмовіўся ад таго, чаму прысвяціў усё жыццё, Васіль Быкаў меў вельмі песімістычны настрой датычна бліжэйшай будучыні Беларусі. Многія заўчасна адышлі ў іншы свет, не вытрымаўшы фізічна і псіхалагічна. Людзям цяжка сярод чалавечкаў, асабліва зараз, калі нацыя так падзеленая ў выніку антыбеларускай палітыкі. Зянон Пазьняк заклікае любіць гэты хворы народ так, як трэба любіць сваіх нямоглых бацькоў. Напэўна гэта слушна, бо іншага шляху, як асветніцтва — папросту няма.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Пераймальніцтва – крок назад

Чвэрць стагоддзя таму прывёз я падарунак для маёй бабулі — электрычную газонакасілку. Бабуля нават яе не кранула, а на прывітанне апрацавала яе свянцонай вадой. Нікому ў вёсцы гэтая навінка не спадабалася. Суседзі здзекаваліся з мяне і бабулі. Па іх словах, гэта быў трымер... для галення. — А ці не лепш скасіць газон касою? Каса раўней. Ты касі касою! — пакрыквалі за плотам. Я не звяртаў увагі на кпіны. Стрыг газонакасілкай, хоць бабуля збоку паплаквала ад ганьбы. Праз год, да рову маёй газонакасілкі далучыўся віск другой, суседавай. Сёння няма такой хаты, каля якой не было б газонакасілкі, або нават дзвюх. Дарэчы, хто яшчэ ў вёсцы ўмее касіць касой?

Пераймальніцтва, імітацыя, кажуць антраполагі, з'яўляецца асноўнай рухаючай сілай прагрэсу. Паводле іншых, яна працуе на два бакі. З аднаго боку стымулюе цывілізацыйнае і культурнае развіццё чалавецтва, з другога — змяшчае разбуральную моц. Відаць, адзіны чалавек выбіў у сабе ідэальную здольнасць пераймання, з-за чаго займеў поспех як від. Прытым гаворка тут у асноўным аб пераймаянні ідэй, а не аб схематычным паўтаранні. Верагодна, вынаходніцтва кола распаўсюдзілася ў чалавечым свеце праз пераймання ідэі кола, а не схематычнага паўтарання яго нязграбнай у пачатку і даволі непрактычнай канструкцыі. У залежнасці ад наяўнасці матэрыялаў, ступені прыспасаблення інструментаў для дрэваапрацоўкі, пажаданасці прымянення, кола стала больш дасканалым тварэннем. Усё ж, не ў кожным рэгіёне свету ідэальным. Нягледзячы на гэта, канцэпцыя застаецца той жа, незалежна ад культурнай ці цывілізацыйнай зоны, у якіх яна закаранілася.

Аднак пераймальніцтва не з'яўляецца выключнай прэрагатывай чалавека. Малпы прыматы таксама валодаюць гэтай здольнасцю. Аналагічным чынам, некаторыя птушкі. Імітацыя ў іх выпадку, аднак, з'яўляецца вынікам назірання за паводзінамі іншых асобеняў і індывідуальнага тэмпераменту. Іншымі словамі, малпа, падглядзеўшы як яе больш вопытныя таварышы выкарыстоўваць палачку, каб дастаць ёю з-пад кары дрэва тлустую лічынку, заўсёды ўносіць мадыфікацыю або інструмента, або спосабу яго прымянення. Такім чынам, пераймальны вопыт паказваецца як адзінкавая практыка, недаступная іншым асобам. Значыць, яна не ідэя, а адзінкавая веда толькі ў вузкім дыяпазоне яе прымянення.

З імітацыяй, аднак, ёсць праблема. У выпадку чалавека, асаблівая. Хоць дзякуючы гэтай здольнасці лёгка распаўсюджваюцца сярод людзей розныя ідэі, але гэта азначае, аднак, што і дрэнныя, і дурныя, добрыя і благія, вартыя капіявання або нічога не вартыя. Ва ўсім свеце апранаюцца больш-менш у тое ж самае, будуем падобныя дамы, абсталёўваем іх у адпаведнасці з апошнімі тэндэнцыямі і модамі. Распальваем грыль па суботах, у летні перыяд едзем на мора, зімой у горы. Купляем такія ж самыя тавары. Масава ідзем у кабінеты біялагічнага абнаўлення здароўя, спажываем здаровую ежу, празмерна клапоцімся пра здароўе. Ні на момант не адыходзім ад інтэрнэту. Ад тэлебачання. А жоўтай прэсы. У тым няма нічога заганнага. Толькі што тут менш і менш пераймання ідэй, і ўсё больш і больш малпінай практыкі. Некрытычна пераймаем суседзяў, сяброў, знакамітасці. Бяздумна капіюем мадэлі паводзін. Таксама нашы перакананні і светапогляд становяцца падобнымі адзін на аднаго, як кроплі вады. Мы хочам, каб заўсёды быць модным, мы хочам быць заўсёды на хвалі. А гэта магчыма толькі тады, калі скараціць нашу інтэлектуальную перспектыву да ўзроўню мурашніка. Калі не заменім гэтага думкай, калі одум заменім на гатовыя формулы ўчутыя ў інтэрнэце або ўласным асяроддзі. Калі пазбавімся ад асабістай цікаўнасці — да свету, да сябе і іншых людзей.

Нядаўна я інтэнсіўна раздумваў, ці не перастаць мне касіць газон. Усё больш і больш схільны я да прыроднай прыгажосці някошанага луга, непадстрыжаных дрэў, напалову дзікіх кветнікаў. Добра час ад часу спыніцца і адступіць некалькі крокаў назад. Каб убачыць, што наперадзе. Як далёка ад катастрофы.

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Тэатры два

У апошнія тыдні я заўважаю, як людзі культуры, і тым больш гэтак званага неінстытуцыянальнага тэатра, рэалізуюць ідэі для адкрыцця мясцовых суполак малых мясцовасцей Падляшша, населеных па большай частцы (і ў некаторых месцах у асноўным) беларусамі. З такой ідэяй выйшаў у апошні час, працуючы з сакавіка 2011 года, Фонд адукацыі і культуры «Драма шлях» («Drama Way») з Варшавы і такая ідэя ў здагадцы ў культурнай асацыяцыі «Паштоўка», якая ў апошнія дні арганізавала шосты раз чарговы Міжнародны фестываль «Вертэп». Фонд у Супраслі правёў семінар для аніматараў культурнага жыцця з усёй Польшчы, якога вынікам быў спектакль з удзелам мясцовых перад палацам Бухгольцаў. Згодна з ідэяй гэтага праекта, уключылі іх у падрыхтоўку прадстаўлення, тобок, пісанне сцэнарыя, музыкі, стваранне касцюмаў і дэкарацый. Таксама зайгралі ўсе разам з аніматарамі. Вынік — прадстаўленне было аснавана на гісторыі людзей, падзеі або легенды, важных для гэтай супольнасці, кранаючых тэмы суіснавання на працягу стагоддзяў у супрасльскіх ваколіцах палякаў, беларусаў, рускіх, габрэяў і немцаў, католікаў, праваслаўных, пратэстантаў і іудзеяў. Ржэсьцёрскую апеку трымаў Караль Смачны, акцёр супрасльскага тэатра «Вершалін».

У сваю чаргу сёлетні «Вертэп» адбыўся, як і штогод, у пастаянным тэрміне: у апошні тыдзень ліпеня і першы жніўня. На гэты раз пад патранатам жонкі прэзідэнта Анны Камароўскай і ў гэтым годзе з трохгадовай гарантыяй грантаў на яго арганізацыю ад Міністэрства культуры. Фестывальныя спектаклі аб'ехалі Нараўку, Міхалова, Чаромху, Орлю, Белавежу, Гайнаўку і гасцявалі ў Палічнай, дзе сядзібу мае Асацыяцыя «Паштоўка». Выступілі тэатры з шэрагу краін, хоць у большасці з Польшчы, з выступамі ў асноўным штукарска-цыркавага характару, хоць і былі такія, якія заахвочвалі да рэфлексіі, як «ПустаЯ» тэатра «Чрэва» Юліяны Дораш і Іаанны Стэльмашук-Троц, пра які мы абшырна пісалі з нагоды яго беластоцкай прэм'еры. Без сумневу, самыя цікавыя падзеі «Ветрэпу» адбыліся ў Палічнай. Традыцыйна ў гэтай маленькай вёсцы, якую выбралі для свайё сядзібы стваральнікі фестывалю Агата Рахцік-Скібінская і Дарый Скібінскі, можна было засесці за ўжо славутым «Доўгім сталом», які рыхтуецца сумесна з мастакамі і жыхарамі Палічнай, а таксама паглядзець займальную выставу фатаграфій Юрыя Косткі — фатографа непадалёкіх Кляшчэль, які на працягу дзясяткаў гадоў пастаянна ўвекавечваў на фотаплёнцы паўсядзённае жыццё сваіх суседзяў. Як ужо пісалі мы ў «Ніве» некалькі месяцаў таму, на гэты скарб наткнуўся выпадкова ў мінулым годзе фатограф і галоўны рэдактар беластоцкага дадатку да «Выбарчай газеты» Гжэгаж Дамброўскі падчас пошукаў фатаграфій-сведчанняў жыцця на польска-беларускай мяжы ў рамках праекта Albom.pl. Адзін з першаадкрывальнікаў гэтага скарбу Гжэгаж Дамброўскі гэтыя здымкі старанна ачысціў і вярнуў да жыцця. У Палічнай таксама ў рамках «Ветрэпу». У Палічнай адбыўся яшчэ канцэрт з удзелам дзяцей з групы «Катрынка» з Брэстчыны і польскіх, горскіх «Бескідак».

У вымярэнні, у якім, на маю думку, павінен працаваць тэатр, параўноўваючы праекты, прадстаўленыя на «Вертэпе» і праект Фонду «Драма Way», безумоўна, бліжэй да мяне другі. Вядома, тэатр і ўсялякія калятэатральныя дзеянні могуць служыць лёгказасвойванай забаўцы, якой усё яшчэ няшмат прапануецца ў малых мясцовасцях Беласточчыны. Аднак, тэатральная прапанова павінна тут выходзіць за рамкі чыста забаўляльныя. Варта — як кажуць — уключыць мясцовую супольнасць у тое, каб таксама на тэатральнай мове расказваць гісторыю, неабавязкова сярмяжна і сур'ёзна, якая з'яўляецца шырокай культурнай спадчынай усіх нас, асабліва калі гэта робіцца тут, у полікультурным рэгіёне, на Беласточчыне. Да гэтага часу — на мой погляд — за такую спробу (паспяхова) узялося Згуртаванне «АБ-БА» ў спектаклі, пастаўленым беларускай моладдзю пад кіраўніцтвам Аліны Ваўранюк «Ой даўно, даўно». Сумуецца мне на Беласточчыне па наступнай частцы такіх тэатралізаваных гісторый, а менш па тым, каб паглядзець штукарска-цыркавыя выступленні, нават такія прафесійныя, як гэта было ў выпадку Нараўкі падчас «Вертэрпу» ў выкананні Акадэмічнага драматычнага тэатра з Брэста («Дон Кіхот»), паказанага, дарэчы, у рамках гэтага ж фестывалю ў мінулым годзе, толькі што ў Міхалове.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# «Ператоча-2014» — прэзентацыя розных культур

Пастаянныя ўдзельнікі Белавежскіх мастацкіх інтэграцый «Ператоча», якія 25 і 26 ліпеня пабывалі на XII выпуску гэтага мерапрыемства, ведалі што абазначае гэтая беларуская назва (месца перад *токам* у *клуні*) і знали, што ў мінулым у *клуні* і побач яе ладзіліся ў нас танцы і вяселлі. Аднак вялікую частку публікі «Ператоча» састаўляюць турысты. Прыязджаюць сюды штораз то новыя наведвальнікі з Беласточчыны. Ім арганізатары растлумачылі, што мэта мерапрыемства — прэзентацыя культур розных нацыянальнасцей, якія побач беларусаў і палякаў пражывалі ў мінулым на тэрыторыі Белавежскай пушчы.



Беларускі дзіцячы калектыў «Сунічкі» са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы

Падчас XII выпуску «Ператоча» пашанцавала з надвор'ем — было сонечна і цёпла. Старэйшыя асобы і бацькі з маленькімі дзеткамі займалі сядзячыя месцы перад сцэнай, астатнія слухалі музыку стоячы. Прадаваліся напіткі і харчаванне, можна было купіць пушчанскія сувеніры і ласункі.

«Ператоча» пачалося з выступлення трубача, затым мерапрыемства адкрылі ініцыятар і яго галоўны арганізатар, дырэктар фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко і старшыня Рады Белавежскай гміны Уладзімір Валкавыцкі. Раней частка выступаючых пакаталася на брычках па Белавежы, заклікаючы жыхароў і турыстаў да ўдзелу ў мерапрыемстве. Першым перад сабранымі выступіў беларускі дзіцячы калектыў «Сунічкі» са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы, якім апякуюцца настаўніца беларускай мовы ў тамашняй школе Анджаліна Масальская і музычны інструктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі.

— Раней я арганізавала музычныя заняткі для белавежскіх вучняў у нашым асяродку культуры, але складана было пераканаць дзетак спяваць у калектыве. Калі калектыў стала арганізаваць настаўніца Анджаліна Масальская, дзеткі, якія вучацца ў нашай школе беларускай мове, сталі членамі калектыву «Сунічкі», якому я падыгрываю на акардэоне. Найчасцей дзеткі з іншых гуртоў спяваюць пад фанаграму, аднак жывы акампанемент гэта дадатковы стымул для спявання, — сказаў Марк Зубрыцкі.

Дзяўчаткі і хлопчыкі запрэзентаваліся на вялікай сцэне з беларускім рэпертуарам адважна і цікава.

— Зараз у калектыве «Сунічкі» выступаюць малодшыя і старэйшыя вучні падставовай школы. Праспявалі яны, між іншым, творы, з якімі выступілі падчас конкурсу «Беларуская песня». Сёння мы прыйшлі сюды раней, каб асвоіць дзетак са сцэнай. Вучням цікава выступіць перад публікай, — заявіла настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская.

Настаўніца паведаміла, што ў Белавежы павялічылася колькасць вучняў беларускай мовы. Першакласнікі будуць вучыцца па-беларуску асобна ад сваіх сяброў з другога і трэцяга класаў. Падчас мерапрыемства прысутнай была і глядзела выступленне сваіх дзетак дырэктар школы ў Белавежы Віялета Янушкевіч.

Займальна запрэзентаваўся беларускі калектыў «Кумы і сванькі», які дзейнічае пры Аб'яднанні ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову «АБ-БА» ў Беластоку. Гурт выступіў два разы і праспяваў песні з Лукі і іншых мясцовасцей Падляшша.

— Наш вакальны калектыў дзейнічае з 2006 года. Раней называўся Студыяй фальклору, а паўтара года таму мы назвалі калектыў «Кумы і сванькі». Заўсёды мы выступаем з аўтэнтычнымі неапрацаванымі песнямі, без акампанементу, — заявіла Барбара Пякарская, былая старшыня аб'яднання «АБ-БА» і заадно ўдзельніца калектыву.

— Я раней коратка спявала ў гэтым фальклорным калектыве, а цяпер, недзе ад двух гадоў, займаюся з ім, — сказала музычны кіраўнік гурта «Кумы і сванькі» Анна Фіёнік са Студзіводаў.

— Мы ўпершыню на «Ператочы». Нам падабаецца атмасфера мерапрыемства.



Беларускі калектыў «Кумы і сванькі», што дзейнічае пры аб'яднанні «АБ-БА» ў Беластоку

Нам было складана навучыцца спяваць песні, запісаныя ў вёсцы Лука. Яны больш далікатныя, чым творы з іншых мясцовасцей Падляшша і крыху іншыя мелодыі песень. Калі мы ўжо навучыліся спяваць песні з Лукі, нам яны вельмі падабаюцца, — гаварыла новая старшыня аб'яднання «АБ-БА» Кацярына Паўлоўская.

Беларускі калектыў «Белы сон» з Беластока, які ў гэтым годзе адзначае 20-годдзе сваёй дзейнасці, захапіў публіку рэпертуарам. Марта Драль і Ян Хоха спявалі перш за ўсё свае аўтарскія творы пад акампанемент гітары (Ян Хоха). Выступілі два разы і праспявалі некалькі песень са сваёй музыкай, але на словы Віктара Шведа і Ларысы Геніюш, што моцна спадабалася беларускай публіцы.

— Мы пачалі займацца ў 1993 годзе, але можна сказаць, што дзейнічаем з 1994 года, бо тады сталі выступаць публічна. Спачатку спявалі на «Бардаўскай восені» і «Басовішчы». Былі перыяды большай і меншай актыўнасці. У мінулым годзе выступілі мы на юбілейным выпуску «Бардаўскай восені», у якасці колішніх пераможцаў, — сказалі Марта Драль і Ян Хоха, якія супольна складаюць словы песень і музыку. — Калі адбываліся святкаванні ў гонар Ларысы Геніюш у Беларусі, там вялікім тыражом перавыдалі нашы песні на яе словы. Нашая першая аўдыякасета была перавыдадзена ў форме кампакт-дыска. У нас многа невыдадзеных твораў і мы хацелі б іх выпусціць асобным кампакт-дыскам.

Песні ў выкананні гурта «Белы сон» увялі сабраных у настрой роздумаў. Вядучы «Ператоча» Радаслаў Дамброўскі, журналіст Радыё «Рацыя», нават параўнаў творы гурта «Белы сон» да жывапісу. Яўрэйскую музыку цікава выконваў клезмерскі калектыў «Simcha» з Вільні, у якім выступаюць вучні і настаўнікі мясцовай яўрэйскай гімназіі.

— Мы прыехалі сюды ў невялікім настаўніцкім саставе, як капэла. Прэзентуем яўрэйскую музыку, бо ў нашай гімназіі вучацца перш за ўсё яўрэйскія дзеці. Сярод выкладчыкаў яўрэі састаўляюць толькі частку персаналу, — сказалі жанчыны з гурта «Simcha».

Падчас «Ператоча» выступілі яшчэ беларускі вакальна-інструментальны калектыў «Ас» з Беластока, фальклорны калектыў «Купалінка» з Мінска, дзіцячы калектыў эстраднага танца «Капрыс» з Камянца (Беларусь) і беларускі вакальны калектыў «Ручаёк», які дзейнічае пры асяродку культуры ў Белавежы.

— У калектыве «Ручаёк» спяваюць прадстаўнікі двух пакаленняў — маці і дочкі. Гэта спрычыняецца да інтэграцыі старэйшых і малодшых спевакоў. Мы дзейнічаем ад пяці гадоў і намагаемся захоўваць нашую беларускую мову і нашыя традыцыі. Спяваем перш за ўсё беларускія народныя песні ў апрацоўцы, выступаем штогод на фестывалі «Беларуская песня» і на іншых беларускіх мерапрыемствах, — гаварыў музычны кіраўнік калектыву Марк Зубрыцкі, які разлічвае, што калектыў папоўніць прадстаўнікі трэцяга — наймалодшага пакалення, што выступаюць у гурце «Сунічкі».

Апекуны дзіцячага калектыву эстраднага танца «Капрыс» з Камянца сказалі, што іх юныя танцоры выступаюць таксама з сучаснымі танцамі, але беларускія народныя танцы з'яўляюцца падставай іх дзейнасці.

Польскую культуру цікава запрэзентавалі курпёўскі аркестр з Леліса ды гуральская капэла імя праф. кс. Юзэфа Цішнера і калектыў песні і танца гураляў «Лапусняне» — абодва з Лапушнай.

— Мы выконваем народныя гуральскія песні ў апрацоўцы і нашыя танцы. Дзейнічаем сорак гадоў. Выступалі ў многіх месцах у Польшчы, за межамі нашай краіны і атрымалі многа ўзнагарод. Падабаецца нам і мерапрыемства, і Белавежская пушча, — сказала Станіслава Шэўчык, шматгадовы мастацкі кіраўнік гуральскага калектыву песні і танца «Лапусняне», які дзейнічае пры Гмінным асяродку культуры ў Лапушнай.



Клезмерскі калектыў «Simcha» з Вільні

Украінскую культуру запрэзентаваў фольк-рокавы калектыў «Тугай-бей» з Ольштына, ромскую музыку прадставіў міжнародны калектыў цыганскай музыкі «Фортэ Рома» з Беластока. З Гродна прыехаў татарскі калектыў «Кубэляк». Літоўскую культуру запрэзентаваў фолькавы калектыў «Saule» Універсітэта ў Шаўлях.

— Наш калектыў «Saule» дзейнічае з 1972 года. У нас займаюцца студэнты і выкладчыкі Універсітэта ў Шаўлях. Мы прэзентуем літоўскі фольк, народную музыку ў апрацоўцы. Выступалі ў розных краінах. Наведалі мы ўжо Белавежскую пушчу, бачылі многа цэркваў, хацелі б пазнаёміцца з тутэйшай культурай, — заявіў Дарыюс Дакніс, мастацкі кіраўнік літоўскага калектыву.

Іаанна Шпаковіч, ураджэнка Белавежы, заявіла, што стараецца пастаянна прыязджаць на «Ператоча», каб паглядзець выступленні калектываў, якія прадстаўляюць розныя культуры і нацыі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Актава ў Нараўцы

Сёлета адбыўся сёмы Міжнародны фестываль музыкі, мастацтва і фальклору „Падляшская актава культур”. На дошках аб’яў у шматлікіх вёсках Нараўчанскай гміны павесілі вялікія афішы з інфармацыяй калі і дзе будуць выступаць мастацкія калектывы з Польшчы і замежжа.

На сцэне ў амфітэатры ў Нараўцы ў пятніцу, 25 ліпеня г.г. пры сонечным надвор’і выступілі два маладзёжныя танцавальныя калектывы „Volkstanzeggruppe Wagram” з Аўстрыі ды „Kud Zivinice” з Босніі і Герцагавіны. На афішах напісалі, што прыедзе калектыў „Вязанка” з Беларусі, але арганізатары выслалі калектыў „Kud Zivinice” з Босніі і Герцагавіны. Абодва гурты не мелі з сабой перакладчыкаў. Гледачы не мелі інфармацыі пра калектывы, з якіх яны гарадоў, з якіх школ ці дамоў культуры і колькі гадоў існуюць, дзе за межамі сваёй краіны выступалі. Не паказаліся публіцы іх кіраўнікі. Мабыць, яны не ведалі ні польскай, ні беларускай ці рускай моў. Добра, што аўстрыйскі калектыў меў у сваім рэпертуары толькі танцы, а другі апрача танцаў тры песні ў выкананні дзявочага трыо.

Замежныя танцавальныя гурты ў прыгожых нацыянальных касцюмах танчылі захапляльна, на высокім мастацкім узроўні. Яны вельмі ж спадабаліся, між іншым, жанчынам, якія спецыяльна прыехалі паглядзець танцавальныя калектывы са старшынёю Таварыства „Ятрышнік” з Лешукоў.

Найперш выступілі маладыя аўстрыйцы, якія прыгожа танцавалі пад музыку акардэона і трамбона. Часта выконвалі тарыскі танец — вальс у такце 3/4 ды ў памяркоўным тэмпе. Вядома, Аўстрыя, Вена і вальс (славутая музыка і вальсы Штраўса). У іх было многа віруючых танцаў парамі. Былі танцы, у якіх юнакі ў чорных капелюшах бавіліся імі. Былі танцы з вялікімі вянкамі, якія пары трымалі высока ў руках над галовамі.

Танцоры і танцоркі з Босніі і Герцагавіны больш імклівыя і дынамічныя, віртуозныя. У танцорак былі бліскучыя каляровыя ўборы з атласу, паясы і хусцінкі. Некаторыя танцы былі падобныя да нашых гуральскіх. Яны і прытупвалі, і пляскалі ў далоні. Да іх танцоры накладалі святочныя ўборы аўчароў. Музыка была жывая, вясёлая.

Гледачам з Нараўкі і ваколіцы танцы падабаліся і яны ўзнагароджвалі іх бурнымі воплескамі. Мерапрыемства працягвалася каля дзвюх гадзін.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Другая Крынкаўска Рэспубліка

„Сёння здымаем фільм пра Другую Крынкаўскую Рэспубліку”, — гаворыць нашаму тыднёвіку ўдзельніца праекта „Пагранічныя”, крынкаўская гімназістка Кася Ляшчынская. Гэта адзін з трох запланаваных варшаўскім Аб’яднаннем практыкаў культуры псеўдадакументальных фільмаў, г.зв. „мок-дакументаў”. Два астатнія паўстануць у Міхалове і прыўкраінскім Даўгабычаве. Англійскае „mock” — гэта літаральна прытвaранне, імітацыя. Фільмы тыпу „мок-дакумент” будуць спалучэннем праўды з фікцыяй, сапраўдных і падпёртых сапраўднымі фактаў.



Выкліканы да дошкі Шымон Станкевіч

„Пагранічныя” стварылі ў Крынках Другую Рэспубліку. Гэта спасылка на славутыя падзеі, якія адбыліся 17-19 студзеня 1905 года. Трохдзённая крынкаўская рэспубліка была выбухам сацыяльнага незадавальнення мясцовых гарбароў. „Крынкі вызначыліся больш за Пецярбург. Учынілі забастоўку, казалі прамовы, ...напалі на „манаполію” і разбурылі яе, рабілі пагромы ў цывільных установах... карацей, туды прыбылі войскі” (В. Карнялюк, *Крынкі ў 1795-1918 гг.*, Гродна 2010, с.147).

Як жывецца ў Другой Крынкаўскай Рэспубліцы, кім лічаць сябе яе жыхары, ці ёсць тут месца для някрынкаўцаў. З такімі пытаннямі звярталіся да мясцовых дзяцей і дарослых каардынатары праекта. Дзеці адназначна рашылі, што асноўнай справай з’яўляецца тутэйшая мінеральная вада „Крынка”. Плыве тут з самага пачатку, яна лячэбная, цудоўная. У ваду і мазгі можна памяняць. Ёю запіваюць усякія праблемы, была і з’яўляецца адзінай і самай лепшай крыніцай крынкаўскага бізнесу. Справа толькі ў тым, каб ніхто яе не выкраў.

Першы кадр фільма — сярэдзіна каўказскай сінагогі, моладзь за школьнай партай, быццам на экзамене індывідуальна стварае герб Крынак. Да дошкі выклікаюць Шымона Станкевіча. „Мой герб прадстаўляе крывую трубу, — гаворыць ён экзаменатарам, — самае папулярнае месца горада, дзе кожны можа чэрпаць усімі любімую „Крынку”. На трубе сядзіць бусел. Іх тут шмат — сапраўдных і штучных, здаровых і хворых”.

Эмілька Крыштаповіч надта любіць сваю рэспубліку. „Усе тут знаёмыя, — кажа яна. — Амаль цэлая мая сям’я — крынкаўская, толькі адзін бацька з Піражкоў”. Дарэчы, піражкі не менш смачныя чым „Крынка”. Чаму тады дзяўчынка з нейкім сорамам прызнаецца да піражкоўскай лініі паходжання? „Адна праблема, што выкрадаюць нам „Крынку”, — прызнаецца, — будзем яе бараніць”.

Галоўная каардынатарка „Пагранічных” Лена Рагоўская дайшла да высновы, што ўсё-такі Другая Крынкаўская Рэспубліка створана толькі для тутэйшых. Кім яны сябе лічаць? Ні палякамі, ні беларусамі, проста — тутэйшымі.

Фільмавыя кадры здымаліся таксама ў наваколлі жыватворнай крывой трубы. Па-суседску з трубой ужо паўстагоддзя пражывае пажылая крынчанка, якой ужо больш за восемдзесят, Феліцыя Будроўская. „Гэта жыды выкапалі, — кажа яна. — Тут кругом гарбарні былі, кожны цягнуў тую ваду трубой, закапанай у зямлі. Крывая труба заступала калодзеж. Згэтуль ваду забіралі вядзерцамі дахаты”, — успамінае жанчына.

Яе ўнук, валанцёр Крынскага дома культуры Марцін Будроўскі атрымаў пасаду галоўнага пагранічніка Другой Крынкаўскай Рэспублікі. „Пакуль стаю тут сам, — гаворыць на пасту. — Працу пачынаю ўжо ў пяць раніцы і так да позняга вечара. Дождж, сонца, зіма, лета стаю і пільную, каб ніхто туды не ўвайшоў. Не дазваляем таксама нікому без патрэбы вывозіць нашу ваду. Калісь, як была тут Польшча, жылі мы блізка Беларусі, але цяпер ужо мы адлучыліся”.

Удзел у фільме прынялі, між іншым, дзяды гімназіста Шымона Станкевіча. „Дзеду, — кажа Шымон, — штодзень я табе не дазваляю гаварыць на гэтай марсіянскай мове, але сёння, для фільма, можаш”. „Калісь усе тут па-просту размаўлялі, — кажа дзед Шымона, Тамаш Будроўскі. — Польскую мову чулі мы толькі ў школе, гміне і касцёле”. „Таму і дзісь папольску гаварыць не ўмее”, — умешваецца жонка Тамаша Будроўскага, Вераніка. „Сёння, калі б не дзяды, то малады б жабравалі. А так дзед з бабай атрымаюць пенсію і памагаюць, — апісвае крынкаўскую рэчаіснасць дзед Тамаш. — Калісь не было добра, бо ў краме былі толькі воцат і алей, нават пральнага парашку не было дзе купіць. Дастаўка тавару прыязджала ў панядзелак, то так тоўпіліся ў чарзе, што чуць не падушыліся. А цяпер у краме зноў усяго ўдосталь, толькі няма за што купляць”.

З гэтымі і іншымі сюжэтамі „мок-дакумента” будзе можна пазнаёміцца ў час прэм’еры, якая запланавана на пачатак верасня гэтага года ў, зразумела, Другой Крынкаўскай Рэспубліцы.

Запрашаем!

**Тэкст і фота Іааны ЧАБАН**



## Адгалоскі

Шаноўныя Беларусы з вялікай літары, давайце жыць дружна і ўміраць, калі прыйдзе час, чыстымі. І то заклінаю Вас я, Васіль Петручук, які жыў быццам бы толькі таму, каб крыўдзіць людзей. А мне заўсёды здаецца, што я да ўсіх стаўлюся прыязна і з пашанай. Ацэніць гэта гісторыя, калі з яе боку нехта захоча кімсьці такім заняцца. Думаю з пераканannем, што не, бо я якасьці так пішу, што ўсім гэта здаецца хлуснёй. Не буду гаварыць аб кімсьці чужым, бо для пераканаўчага погляду дастаткова цёткі Устынкі, якая назвала мяне лгуном, калі я раз у жыцці спытаўся ў яе, ці гэта праўда, што яна забрала пасцель з нашай хаты пасля смерці маёй мамы, бо мачыха так гаварыла, а я спаў на голай лаўцы. І пару гадоў таму мая жонка спыталася ў мяне, ці гэта праўда, што я служыў у войску. Яна відавочна думала, што мундзір у шафе куплены, а дакументы сфальшаваныя. Іншая справа гэта такая, што яна хіба і не бачыла майго дыплома заканчэння унтэр-афіцэрскай школы і ніякіх іншых дыпломаў, бо зусім гэтым не цікавіцца, а я нахабна не падсоўваю ёй іх пад нос. Яе вера адносна мяне раўняецца веры цёткі, ну бо як якісьці абадранец, ні да Бога, ні да людзей, мог служыць у войску ды яшчэ *охвыціером*? Божа, адпусці грахі.

Паважаны рэдактар Коля Ваўранюк, меў я аж тры тэлефонныя званкі ад чытачоў „Нівы” з запытаннем, ці я чытаў „Ніву”. Адзін з чытачоў, даведаўшыся, што я яшчэ яе не купіў, прапанаваў мне, каб я паслухаў — ён мне з інтэрнэту прачытае. Я адказаў, што сам куплю газету і пачытаю. Ён яшчэ хацеў чытаць, але я адмовіўся, бо ўжо крышку злякаўся, што нешта мусіць быць цікавае, бо і апошніх двух чытачоў быццам мне паспачувалі.

Купіў, і то аж з падвойным тэкстам загалоўка „ПЕРАПРАШАЮ”, прачытаў і зразумеў Вашу тонкую алюзію, спадар Рэдактар, і... не абразіўся. Толькі цяпер сяджу пры машыны і нервуюся тым, што яшчэ і яшчэ мушу з чагосьці апраўдвацца. З гэтай „учэпістай памяццю” то ў нас абодвух нешта глыбока не так. Я меў некалькі паважных аперацый на сваім арганізме і ані адной не памятаю калі. Факт памятаю, а дату не прысвойваў. Вы таксама хочаце даказаць чытачам маю хлусню адносна факту на вайсковым магільніку ў Бельску і мяне скампраметаваць. Але калі гэта Вам, спадар рэдактар М. Ваўранюк, не спадабалася, то можаце яшчэ спытацца ў палкоўніка Язэпа Антанюка.

Я гэта ўспамінаю без ніякай злосці або антыпатыі, не, я Вас шаную і паважаю, бо хто б што б на мяне не гаварыў, то я мушу пахваліцца тым, што ў сэрцы я нашу прыкрасць, а не злосць. І тут прыпомню Вам яшчэ адзін факт у адносінах між намі. Даты не памятаю, але гэта было недзе ў васьмідзясятыя гады, бо ўжо мая „Пожня” ўбачыла свет на беларускай мове. У Белавежы гасцявалі беларускія студэнты (замежныя), а вы былі іх правадыром. Я аб гэтым даведаўся, ды ўзяў ды наклаў у багажнік дзясяткі экземпляраў кніжак і паехаў у Белавеж іх прадаваць, каб зарабіць крыху грошай. Калі толькі заехаў, сустрэў Вас з групай гэтых студэнтаў. Мы прывіталіся і Вы сказалі: „Думаю, пан Петручук, што вы беларускім студэнтам не пашкадуеце сваіх кніжак?”. Я ўехаў на панадворак, дзе яны кватаравалі, студэнты ўставіліся ў чарзе і я падпісваў свае кніжкі. Дамоў вярнуўся з пустым багажнікам. Можаце назваць гэта хлуснёй, але так было. Знайшоў ад іх падарунак, кніжку Янкі Журбы, падпісана 24.06.93.

Паважаны спадар рэдактар Мікалай Ваўранюк, я Вам прызнаю рацыю і ў канцы Вашага тэксту, але паверце мне, хаця ў злосці будзе Вам цяжка, што я будучы бедным, бездапаможным шчаняткам скітаўся паміж людзьмі дрэннымі і абыякавымі, а ўсе ведаем, што свет не без добрых людзей. Відавочна я быў такі агідны, што ўсе мяне брыдзіліся і не хацелі бачыць? Калі я быў хворы і стагнаў або плакаў да болю, то мая „мама” гаварыла: „Чорт тэбэ то возьмэ, а Боговы нэ трэба”. І мела рацыю, бо колькі я прасіў Бога, а смерці не дапрасіўся. А сам быў трусом, каб утапіцца або павесіцца. Цярпеў і пераносіў усё, а цяпер нанова ўсё перажываю, бо чорт мяне спакусіў распранупца дагала, каб паказаць людзям, чым ёсць зло і нянавісць сярод людзей. Паказаў. Дадаткова, не маючы розуму да канца свайго існавання, бо жыццём гэтага не назавеш, астаўся буслам. Але гэтага ніхто не ведае, апрача падобных да мяне. Жадаю Вам усяго добрага, на чале са здароўем.

**Васіль ПЕТРУЧУК**

# «МАРКОТНЫЯ ЗОРКІ» Янука Дарашкевіча

Ва што гарачым сэрцам верыў,
Чым жыў, чым буду далей жыць —
То запісаў тут на паперы
Разумным людзям абсудзіць...

Ці месца нашаніўца Івана Канстанцінавіча Дарашкевіча ў літаратуры і на Гарадоччыне «травой зарасло»?

— Сцяпана Пятэльскага (Арла) з Гарадка і Янука Дарашкевіча (Каршуна) з Меляшкоў, — сцвердзіў Янка Саламевіч, — можна смела называць пачынальнікамі новай беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, пачынальнікамі шчырымі і таленавітымі. І памяць пра іх у нашым народзе павінна быць дзейснай і жывой. Іх літаратурная спадчына служыць нашай літаратуры, беларускай культуры. Яна — яшчэ адна цаглінка, выкладзена ў падмурак беларускага прыгожага пісьменства яшчэ разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

Янка Саламевіч у 1991 г. сабраў і выдаў у Мінску асобным зборнікам творы М. Арла «Лірнік». А Сяргей Чыгрын са Слоніма — сабраў і выдаў вершы «Каршуна» — «Маркотныя зоркі»...

У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» Януку Дарашкевічу прысвечана толькі некалькі радкоў. Адзначаецца, што «...яго творчасць развівалася ў рэчышчы беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі, прасякнута болем за лёс абяздоленых...». Газета «Наша ніва», якая выдавалася на беларускай мове з 1906 г. у Вільні, была сапраўднай калыскай паэтычнага таленту многіх пісьменнікаў. Тут друкавалі свае творы Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч і многія іншыя паэты і празаікі. У 1909 г. на старонках «Нашай нівы» пачалі друкавацца вершы, допісы, карэспандэнцыі пад псеўданімам Янук Д. Сапраўднае прозвішча паэта было невядомым. Як заўважыла беларуская даследчыца Тамара Чабан, на доўгі час у гісторыі беларускай літаратуры ён быў пазбаўлены не толькі імя, але і псеўданіма. Некаторыя творы паэта былі прыпісаны Арлу, а подпіс «Янук Д.» лічыўся адным з псеўданімаў Сцяпана Пятэльскага. Памылка паўтарылася нават у акадэмічнай хрэстаматыі «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (Мінск, 1967). А М. Арол надрукаваў у «Нашай ніве» верш «Пясняр» з прысвячэннем яго Януку Д. Дзякуючы намаганням літаратуразнаўцаў Арсеня Ліса, Аляксея Пяткевіча, Юрыя Туронка, Тамары Чабан, Сяргея Чыгрына паэту вернута яго імя і месца ў гісторыі літаратуры.

Іван Канстанцінавіч Дарашкевіч нарадзіўся ў 1890 г. у вёсцы Меляшкі на Гарадоччыне тагачаснай Гродзенскай губерні ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Бацькі Івана мелі 8 гектараў зямлі і сямёра дзяцей, сярод якіх Іван быў старэйшы. Пачатковую адукацыю атрымаў у роднай вёсцы, потым вучыўся ў Гарадку, дзе пасябраваў з аднагодкам Сцяпанам Пятэльскім — будучым паэтам М. Арлом. Яны разам вучыліся ў настаўніцкай семінарыі: па сцвярджэнні Ю. Туронка — у Ялоўцы, па сцвярджэнні Т. Чабан — у Свіслачы, якую скончылі ў 1909 г. У наступныя гады Іван Дарашкевіч жыў на Берастаўчыне: настаўнічаў у вёсках Сямёнаўка і Кулі. Працуючы ў апошняй, пазнаёміўся з Кацярынай (мела добры голас і ведала шмат народных песень, якія ён любіў слухаць, запісваў і на іх аснове ствараў новыя, як «Сядзіць голуб»).



У 1913 г. Іван Канстанцінавіч Дарашкевіч і 18-гадовая Кацярына Маркаўна Буцько пажаніліся, а восенню 1913 г. пераехалі ў Літву ў Даўкшы каля Панявежыса, дзе Янук амаль год працаваў у мясцовай школе. Працуючы ў школах на Берастаўчыне чытаў ды пісаў допісы і вершы ў «Нашу ніву» з 1909 г. і гэ-




та супрацоўніцтва працягвалася да пачатку Першай сусветнай вайны. Газета надрукавала шэраг вершаў Янука Д., у якіх на першым плане цяжкае жыццё беларускай вёскі («Доля, «Стогн», «З родных абразкоў», «Ганя» і інш.). Іван Дарашкевіч шмат перакладаў рускіх паэтаў — Лермантава, Нікіціна і іншых. Спрабаваў свае сілы паэт і ў прозе. У красавіку 1912 г. рэдакцыя «Нашай нівы» на апошняй старонцы пісала: «Януку Д. «Першыя крокі жыцця», трэба было б папрравіць «Дзве дарогі» надрукуем...». Янук Дарашкевіч дасылаў у «Нашу ніву» і допісы, карэспандэнцыі на тэму вясковага жыцця. У 12-13 нумары з 1911 г. «Нашай нівы» піша: «У гэтым мястэчку (Крынкі) жыве шмат інтэлігентаў, але мала між імі людзей. Мястэчка не мае ніякага духоўнага руху, за ўсё аддуваецца гарэлка і карты. П'юць усе пагалоўна. Страшна і сумна робіцца на душэ... Людзі забудуць, што яны — людзі; забудуць тую вякамі забытую культуру, каторую падарылі ім іх бацькі...».

Вядома, што ў 1914 г. паэт сабраў рукапіс сваіх вершаў пад назвай «Абразкі» і даслаў у «Нашу ніву», маючы намер выдаць зборнік асобнай кніжкай. Але зборнік паэта так і не выйшаў у свет. Пачалася Першая сусветная вайна, і восенню 1914 г. Іван Дарашкевіч быў мабілізаваны ў царскую армію і накіраваны ў школу прапаршчыкаў. Доўгі час думалі і гэта сцвярджалася ў друку, што І. Дарашкевіч загінуў. Але пазней выявілася, што паэт выйшаў з вайны жывым. Як сцвярджала яго сястра Люба, непасрэдна пасля грамадзянскай вайны вярнуўся ён разам са сваёй сям'ёй (жонкай Кацярынай і дзвюма дочкамі — Нінай і Людмілай) у родную вёску Меляшкі, якая ўжо ў той час была ў складзе Польшчы. Тут знайшоў разбураную гаспадарку і мізэрныя перспектывы. Тое ж самае было і на радзіме жонкі ў вёсцы Кулі на Берастаўчыне. Польскія ўлады настаўніцкай працы Івану не давалі. Праз 2-3 гады ён з сям'ёй выехаў у Савецкі Саюз, стаў кадравым афіцэрам Чырвонай Арміі.

Большую частку жыцця пражыў Іван Дарашкевіч у Варонежы. З Варонежа пайшоў на фронт. Загінуў у баі ў ноч з 23 на 24 лютага 1943 г. каля пасёлка Фецішчава Арлоўскай вобласці. Дом, у якім жылі Дарашкевічы ў Варонежы, быў разбураны ў час ваенных дзеянняў, загінуў увесь рукапісны архіў паэта...

— На шчасце, захаваўся ў Вільні той сшытак вершаў «Абразкі», — сцвярджае Сяргей Чыгрын, які выдаў у Мінску Янукову спадчыну. — Мне ўдалося яго адшукаць у рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83), патрымаў яе ў руках, прачытаў і перапісаў усе творы з гэтай кнігі. У старой папачцы, акрамя сшытка вершаў, знаходзіцца яшчэ пісьмо з вершамі ў «Нашу ніву» і некалькі выразкаў вершаў з гэтай газеты.

Вершы Янука Дарашкевіча, што ўвайшлі ў кніжку «Маркотныя зоркі», паходзяць з розных друкаваных і архіўных крыніц — з архіўнай папкі, іншыя, якія друкаваліся на старонках «Нашай нівы» ў 1909-1914 гадах і іншых беларускіх выданнях. Верш *Шкада разбітых мар* быў апублікаваны ў «Нашай ніве» 21 лістапада 1913 года пад псеўданімам Янук Д-іч., а верш «Сончык» — друкуецца паводле штогодніка «Дзень паэзіі — 1989», дзе ўпершыню быў апублікаваны. Верш «Стогн» быў апублікаваны ў «Нашай ніве» 8 сакавіка 1912 г. пад псеўданімам Янук Д. Янка Саламевіч палічыў, што гэты верш напісаў М. Арол і ўключыў быў яго ў кніжку «Лірнік», але Ігнат Дварчанін верш «Стогн» уключыў у сваю «Хрэстаматыю беларускай літаратуры» ў 1927 г. як верш Янука Дарашкевіча. «Ніва» ў 1981 г. таксама змясціла гэты верш як верш Дарашкевіча...

«Арол і Янук Д., — пісаў у 1913 г. Максім Багдановіч, — людзі, што маюць палёт і талент... Трапляюцца ў іх часам і вершы даволі сільныя па пад'ёму і думцы...».

Зборнік Янука Дарашкевіча надрукаваны ў Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор». Шкода, што не змог ён паявіцца ў Гарадку, адчакаўшы, падрыхтаваны Сяргеем Чыгрыным да друку, пару ладных гадоў. Чакаў свайго чытача сотню гадоў.

У родных Януковых Меляшках прамоцыя ягонай кнігі — у канцы верасня.

Міра ЛУКША

## Стогн

Хочацца крыкнуць, каб неба ўздрыгнулася
Страшна-галосна , каб людзям пачулася,
Як тут канае іх брат-чалавек!
Голадам змораны, цемравам скручаны,
Працай нямернай забіты, замучаны
Моўчкі без скаргі канчае свой век!
Гіне ён... Помач ніскуль не яўляецца ...
Стогны ў паветры яго расплываюцца ...
Людзі не хочуць іх ведаць, ні чуць.
Што ім да гэтага стогну народнага?
Быццам, як свята, іх жыцця выгоднага
Дні за дзянькамі так роўна бягуць!
Не да яго ім. Мой браце змарнаваны,
Скрыўджаны, зганьблены, імі аплёваны,
Толькі ім сілы свае падавай!
Толькі кармі іх ты працай крываваю,
Жыццё дастаў ім з раскошай, з забаваю,
Сам жа ты з голаду гінь, падыхай...
Эх, небарака! Калі ты падымешся
Моцнай сцяною, як хваляй уздымешся,
Сказаці ўсім, што і ты чалавек!
Чы мо, пакоры спрадвеку навучаны
Цемравам вечным, нядоляю скручаны,
Гэтак ў пакуце жыць будзеш ўвесь век?

## Сончык

Зачарнелі паля, аджывае зямля,
Сонца свеціць ласкава, цяпло.
Лес маркотна шуміць, сэрцу
хочацца жыць
Ды вярнуць то, што ў вечнасць
ўцякло.
І пачуўшы прывет,
— сонца цёплага свет —
Робка выглянуў сончык з зямлі.
Распусціў капшучок, прыпадняў
сцебялёк
І зацвіў... А часіны цяклі ...
Горач спёку жане, лес заціх,
як ва сне,
Пташкі змоўклі, абрыдла цяпло.
І час смерці настаў; сончык
ціха сканаў,
А то мейсца травой зарасло.
Гэтак будзе са мной.
Ціхай цёплай вясной,
Як той сончык, я свету хачу.
А як прыйдзе пара,
згасне жыцця зара,
Як і ён, я навек замаўчу...

* * *

Мы расціліся, помніш, без слёз.
Хоць душа разрывалась
ад болю ...
Буйны вецер развеяў, разнёс
Нашы думкі па чыстаму полю.
Ты маўчала. Я доўга глядзеў
Ў твае вечна задуманы вочы...
О, як моцна я сэрцам хацеў,
Каб канца не было гэтай ночы!
Але час наш прабіў... Ты ўзяла
Маю руку ды ціха сказала:
„Не гаруй! Дзе бы я ні была,
Я це буду кахаць, як кахала!
Загародак для сэрца няма:
Яно свет праляціць,
як салоўка, —
Пацалуй жа мяне!” І сама
Ты ка мне нахіліла галоўку.
Як ва сне, я абняў це рукой
(Ты забыла сказаць: адхіліся!),
Нашы вусны бы самі сабой
У пацалунак прашчальны
зліліся.

* * *

Шкада разбітых мар ... На цёмным
дне жыцця
Блішчаць яны маркотна, быццам
зоры.
Шкада мінуўшых дзён ...
Бяздольнае дзіця,
Я не правёў вас вольна на прасторы.
Без мэты не прайшлі. І цяжка
ўспомніць мне.
Што не зыймаць вас болей
на паперы,
Што вы нішто, што вы прайшлі
ва сне
Без гонару, без працы ды без веры.
І годы праляцяць, і згіне след
на іх.
Як гіне след ў густым тумане ночы,
І вечнасць не аддасць часінаў
дарагіх,
Не ўбачаць іх мае навекі вочы.
А ўсё ж такі я жыў, хоць сумны
як пясняр.
Любіў адну, яна мяне любіла...
Шкада мінуўшых дзён... шкада
разбітых мар...
Іх верне мне сырая маць-магіла.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Ветэранка Сустрэч „Зоркі”

Сустрэчы „Зоркі” пачаліся ў 1995 годзе, у вёсцы Меляшкі. Пазней яны праходзілі ў розных мясцінах на Падляшшы, а нават на Кашубах.

У адзін вечар мы мелі нагоду сустрэцца з ветэранкай зорчыных Сустрэч Наталляй Кандрацюк-Свярубскай. У час першых Сустрэч ёй было толькі тры годзікі. Для яе гэта была файная гульня. Яна сама вельмі любіла гаварыць са старэйшымі дзяўчатамі і хлопцамі. Памятае, як хлопцы з гімназіі насілі яе на руках. У пяць гадоў яна ўжо хацела зраўнавацца з журналістамі. Расказала, як разам з малодшай сяброўкай Нінай яны прыдумалі газету пад загалоўкам „НН” (ад іх імёнаў). Іх газета была „найлепшай”, таму што была самай „тоўстай і мела каляндар”.



Наталля, будучы вучаніцай, вельмі многа пісала ў „Зорку”. У другім класе гімназіі яна напісала беларускую кніжку „Муха ціп-топ”. Малюнкі да кніжкі зрабіла яе класная сяброўка Оля Каліна. Кніжка апавядае пра бунт маладых вучняў і настаўнікаў, якія ім перашкаджалі ў здзяйсненні іх шалёных задум...

Таксама на Сустрэчах два разы была галоўным рэдактарам газетак „Кампот” і „Аранжавая хатка”. Наталля сказала, што па сённяшні дзень яна сустракаецца з людзьмі, якіх пабачыла на Сустрэчах „Зоркі”. Яна студэнтка дзвюх спецыяльнасцей на аддзяленні журналістыкі Варшаўскага ўніверсітэта.

На Сустрэчах найбольш падабалася ёй вынаходлівасць сяброў і творчая атмасфера. Памятае як у Бора-Здруй, разам з сябрамі, пілі каву з „Бядронкі”. Каб яна мела смак, у кубак сыпалі па шэсць лыжачак. Або як пасля сустрэчы з пісьменнікам Камілем Сіповічам яны наладзілі шалёны хіпі-парад у дажджы на світанні...

Наталля заахвочвала нас не саромецца свайго паходжання. „У сучасным свеце, — сказала яна, — нашая беларускасць і праваслаўе выклікаюць толькі пазітыўнае зацікаўленне”.

**Оля Зіневіч, Эва Аврчук —**
***„Пушчанскі голас”***



# Міхась Грэсь з Гарадка...

... у час пабыўкі на Сустрэчах „Зоркі” падказаў нам дзе шукаць тэм для сучаснага дакументальнага кіно. Міхась свае кінапраекты робіць разам з Фондам „Віла Сакратэс”, які знаходзіцца ў Крынках. Мы паглядзелі два фільмы. Першы быў пра моладзь з Крынак, якая задумвалася: хто яны? Ці палякі, ці беларусы? Адметна, што амаль увесь фільм стварыла моладзь. Эцюды, са сваімі выступленнямі, яны запісалі на мабільніках. Ёсць там таксама анімацыя, якую запісалі ў школе; што цікава, там гавораць па-беларуску. Другі фільм — „Лавачка”, паказвае старэйшых людзей і вясковы звычай пасядзелак на лавачцы. Фільм запісаны ў чатырох гмінах: Крынкі, Гарадок, Белавежа, Нараўка. У кожнай гміне людзі іншыя, але ўсіх яднае „лавачка”, якая калісьці стаяла перад кожнай хатай. Людзі ў фільме гаварылі на розныя тэмы, напрыклад, пра людзей з вёскі, пра жывёлу, пра мову, пра веравызнанне, пра культуру. Яны ўспаміналі мінулае і гаварылі як ім жывецца сёння. Міхась Грэсь сабраў каштоўны матэрыял для роздумаў. Часта, калі бачым людзей на лавачках, не падазраем, што там вядуцца цікавыя размовы, што людзі кранаюць тэмы і праблемы глабальнага маштабу. І ўсё гэта адбываецца па-беларуску.

**Наталля Васько** — *„Сустрачанская скрыня”*

# Свіцязь

Паэт едзе карэтай.
Ён спыніўся са сваім слугой у лесе.
Паэт выйшаў з карэты,
Пачуў нейкі трэск.
Ён спалохаўся.
Ён адвярнуўся і ўбачыў Рыцара.
Той кінуўся наўцёкі.
Убег ён у балота,
Пачаў тапіцца.
Паэт пабег яго следам...
Пад зямлёй ён убачыў горад і людзей,
Якія высылалі сваіх хлопцаў на вайну.
На жаль, ваяры не змаглі абараніць горад.
Горад пачаў гарэць.
Людзі схаваліся ў царкве,
Моцна маліліся.
Вораг хацеў прарвацца ў царкву,
Але Бог выслухаў малітвы нашых людзей,
І ўтапіў чужаземцаў.
Паэт прачнуўся.
Усё здавалася явай.
Ці гэта сон?
Ці можа праўда?!

**Крыстыян Паскробка**
— *„Сустрачанская скрыня”*

# Царква

Малітвы месца,
Малітвы час.
Суцяшэнне знойдзем усе ў царкве.
Калі сум пачне мучыць цябе,
Малітвы моц паможа табе.

**Магда Бляўская**
— „Сустрачанская скрыня”

№ 32 [10-08-2014]

# Мары збываюцца

Калі лягаю спаць, заўсёды правяраю ці сшытак і ручка ляжаць на сваім месцы. Яны заўсёды павінны быць у каробцы пад ложкам. Гэта на выпадак, калі з'явяцца сонныя мары. Яны хутка ўцякаюць, таму лаўлю іх у сшытак як толькі адкрываюцца мне вочы.

У гэты раз у сне пабачыла я маму, якая паслала мяне ў краму за прадуктамі. Узяўшы спіс пакупак, торбу і грошы, я адправілася ў цэнтр мястэчка. Надвор'е было цёплае, сонечнае, а людзей, як ніколі, шмат. Выявілася, што быў гэта чацвер, значыць, кірмашовы дзень, устаноўлены ў Крынках яшчэ ў шаснаццатым стагоддзі каралём Жыгімонтам I Старым. У цэнтры, у месцы зялёнага парку, стаялі крамы і латкі з усялякага тыпу таварам. Маю ўвагу прыцягнулі ювелірныя вырабы: каралі ў колерах вясёлкі, фантастычныя па форме брошкі, зачараваныя шкатулкі. Адарваць вачэй ад гэтага было немагчыма. Кругом латкоў кружыліся ў асноўным больш і менш элегантныя жанчыны. Сярод іх былі мае суседкі, пані настаўніца, жанчыны з калектыву „Экзіт". Заўважыла я таксама шмат новых твараў. Новыя, а можа не новыя. А ці не бачыла я іх ужо на старых фотаздымках, якія часта паказваюць у нашым доме культуры? Што цікава, усе яны таргаваліся на польскай і простай мовах. Мне заўсёды здавалася, што простую мову ведаюць тут толькі дзядулі і бабулі. Ніколі б і не падумала, што элегантная жанчына можа загаварыць па-беларуску. Жанчыны таргаваліся і надта цешыліся ўдалымі пакупкамі. Мне так захацелася стаць уласніцай латка.

Пра цудоўны сон я расказала сваёй маме. „А чаму б не зрабіць прымроеных прадметаў уласнаручна?" — запрапанавала. За справу забралася я неадкладна. Мара збылася. За латком з уласнаручнымі вырабамі дэбютавала я ў час крынскага Вечара чатырох культур, які прайшоў 26 ліпеня 2014 года.

**Юля Воўчук і Іаанна Чабан**



Фота Іаанны ЧАБАН

*Юля Воўчук за латком з уласнаручнымі вырабамі*

# Вершы Віктара Шведа

## Маці вінавата

Вярнуўся дахаты Жэня
Са скалечаным каленам.
Матуля моцна сварыцца:
— Я знала што так здарыцца.

Знерваваны і хворы
Сын выступіў з дакорам:
— Чаму, калі ты ведала,
Мяне не папярэдзіла?

## Ці брат лепей бачыць?

— Мой маленькі брат, Мішка,
Лячыўся ў шпіталі.
Яму сляпую кішку
Лекары выразалі.

Дык пабыўка ў шпіталі
Твайго брата — ўдача.
А скажы мне Наталля,
Ён цяпер лепей бачыць?

## Страчаны час

Настаўнік увайшоўшы ў клас
Спытаў: — Скажы малыш,
Які гэта будзе час —
Я стаю, ты стаіш?

Доўга разважаў якраз
Што сказаць малому:
— Страчаны тут будзе час,
Кожнаму, вядома.

# Крыж згоды і братэрства

Здаецца, гэта звычайная вёска, распаложаная сярод лясоў. Аднак, у Альхоўцы шмат цікавага. Тут жыве Тадэвуш Кшыжаньскі. Ён нашчадак беларускага класіка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Спадар Кшыжаньскі паставіў праваслаўна-каталіцкі крыж. Перакладзіны крыжоў спалучаны ў жэсце братэрства і згоды. У першую нядзелю чэрвеня, кожны год, тут адзначаюць абрад абыходу палёў. У Альхоўку прыязджае бацюшка і ксёндз. Яны разам моляцца за спор і поспех гаспадароў.

Эва Аўярчук
— *„Пушчанскі голас"*



## Хлусня

*Людзі ходзяць па нязведаных дарогах,*
*Яны адкрываюць новыя месцы.*
*Іх дзейнасць належыць да прозы гэтага свету.*
*Здараецца, яны пачынаюць блудзіць.*
*Яны пападаюць у сецё хлусні.*
*Ападаюць на дно, як камень кінуты ў ваду.*

**Юстына Марчук**
— *„Сустрачанская скрыня"*

# Польска-беларуская крыжаванка № 32

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 28: Ліпа, арт, фота, рэха, рэбус, час, арэшак. Лета, ліфт, рэч, рэ, патрэба, арт, хустка, пас.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Narzeczony / Mag | | Bób / Ganek | | | |
| | Granica | Miarka | Pałac | | | | Pan | Bawół | |
| | | Warkocz | | Napój / Łyko | | | | | |
| | Kalina / Kum | | | | | | | | |
| Kołysanka | | | | | | | | | |
| | | | | | Gęsior | | | | |
| Siłacz | | | | | | Jak | | | |

# Карцінкі з глыбінкі




# Нараўчанскай гмінкі



**Пасля няспынных рыначных перамен мінулага чвэрцьстагоддзя рвануўся я на аўтобусе ў родныя мясціны ўласнавочна пабачыць, што там змянілася цягам аднаго апошняга года. Калісь-калісь у напрамку Нараўкі можна было аўтобусам публічнай камунікацыі ехаць амаль у любы час і то са звышлімітным мноствам пераважна маладога пасажырскага спадарожніцтва. Колькасць пасажырства пастаянна падала і летась транспартныя ўлады рэзка абмежавалі і колькасць транспарту. Цяпер у напрамку Нараўкі едзе толькі адзін у будзённыя суткі пэкаэсаўскі аўтобус; ягоную пасляабедню адзіноту суправаджае надта памяркоўная колькасць пасажыраў. А гэты мінімальны лік аўтобусаў намагаецца ахапіць максімальную колькасць наведваных мясцовасцей. Вось ад Бандароў тая машына заміж проста з моста ехаць у напрамку Міхнаўкі, спыняючыся насупраць Новай Лукі, робіць вялікі круг цераз гэтую вёску, радуючы яе выхлапнінай і дэцыбеламі.**

З аўтобуса злажу ў Плянце; цяпер і там навізна. Прыпынак у напрамку Гайнаўкі, што быў пры геэсаўскай краме, астаўся пакуль на сваім месцы. Затое прыпынак у напрамку Беластока, які быў акурат насупраць згаданага, нечыім рашэннем перанесены каля двухсот метраў далей. І раней пасажыр, які чакаў аўтобуса ў любым напрамку, мог выглядаць яго прысеўшы на лавачцы пад прытульнай паветкай; зараз можа яго чакаць стоячы пад голым слупком, на якім зачэплены знак прыпынку. Пасажыраў публічнага транспарту цяпер мала, але транспартным уладам выгадней было б, каб тых пасажыраў не было зусім — было б ім, запрацаваным уладам, менш клопату.

З Плянты іду ў напрамку Ляўкова. Іду адрэзкам асфальтавай ваяводскай дарогі № 687, згадванай Янкам Целушэцкім у ягонай шматлікай творчасці. Вось і зусім нядаўна („Ніва" № 29) прысвяціў ён крыху ўвагі гэтаму адрэзку, згадваючы, што дзякуючы намаганням Янкі Целушэцкага былі там ліквідаваны ўхабіны. Гэтае сцвярджэнне суправаджае плённы аўтар выклічнікам „Удалося!". Але калі глянуць не на маляваную на цярплівай паперы нашым славутым „белавежцам" дарогу, але на сапраўдную, тады відаць, што Янку Целушэцкаму ўдалося напісаць адно пра яго — пра Янку Целушэцкага.

Ухабіны на ваяводскай дарозе № 687 між Плянтай і новым Ляўковам былі сапраўды ліквідаваны, але не ўсе. Далей ад хаты славутага нашага дапісчыка яны асталіся някранутымі. Бліжэй жа хаты Янкі Целушэцкага яны шчодра запоўнены бітумічнай масай ды пасыпаны зверху дробным белым шчэбенем, утвараючы далікатныя белыя бугаркі, якія выглядаюць як прыхаваныя айсбергі ў асфальтавым моры. І цяпер там колы машын заміж панура ўпадаць у выемкі, далікатна і весела падскокваюць на тых бугарках; і гэта добра, бо рысоры надалей не ржавеюць. Да таго ж ваяводская асфальтовачка, з яе чорнымі дзірамі і белымі антыдзірамі, выглядае цяпер як агромністы Космас, што за блакітным трыдзявятым небам. Дзякуючы, вядома, Янку Целушэцкаму.

Няпоўная праўда гэта па сутнасці няпраўда, якую інакш называюць фікцыяй. А фікцыя ў свеце пісьменнасці гэта не што іншае, толькі мастацкая літаратура: „Fikcja — w dziele literackim sposób przedstawienia świata, autonomicznego w stosunku do rzeczywistości, powstałego w wyniku przekształcenia przez autora autentycznych faktów i zdarzeń, zgodnie z jego zamierzeniami ideowymi i artystycznymi" (чатырохтомная Энцыклапедыя PWN). А гэта абазначае, што згаданы дапіс Янкі Целушэцкага з'яўляецца не нейкай справаздачай канцылярскага характару, але знакамітым творам мастацкай літаратуры.

Чалавечае жыццё — гэта не з міскі ў рот. Жыццё запоўненае ўсялякімі ўхабінамі і бугаркамі, дакладна так, як ваяводская дарога № 687 між Плянтай і Новым Ляўковам. І Янка Целушэцкі, пішучы нібыта пра ўхабіны ў асфальце, алегарычна піша пра шматграннае чалавечае жыццё, пра ўсялякія чалавечыя долі і нядолі. Пра гэтыя долі і нядолі пісалі таксама літаратурныя славутасці, як Сафокл, Шэкспір ці Дастаеўскі, але рабілі яны гэта непасрэдна, спрошчана, без прымянення вытанчаных літаратурных сродкаў. Янка ж Целушэцкі ўводзіць у сваю творчасць вытанчаную алегорыю, выходзячы са сваім наватарствам далёка наперад кагорты прызнаных класікаў.

Дайшоў я да расходных дарог, што перад хатай Янкі Целушэцкага і яшчэ раз удалося мне пераканацца ў неардынарнасці нашага літаратурнага волата. Мабыць у яго, у Янкі Целушэцкага, вытанчанае чуццё навакольных падзей, нейкі шосты сэнсар, няўлоўны звычайнаму абывацелю. Гэтым шостым сэнсарам пачуў ён маё прыбліжэнне і жвава выбег з хаты, адразу перабягаючы на другі бок вуліцы, быццам гасцінна запрашаючы мяне ў парогі свайго працоўнага кабінета...

У Сярэдняй Азіі, паводле некаторых тутэйшых уяўленняў, здарожанаму госцю гаспадар прапануе гасціну ды адпачынак. І на начлег падсылае таму вандроўніку адну з жонак са свайго гарэма, каб спалася яму выгадней, чым у абдымках аднаго толькі Марфея. І гасціннасць Янкі Целушэцкага напэўна не менш высакародная, чым абвеяная нашымі народнымі міфамі гасціннасць эміраў Самарканда ці Бухары. Вельмі шкада адно толькі, што Янка Целушэцкі не трымае свайго гарэма, але — хто ведае...

Каля хаты Янкі Целушэцкага ад ваяводскай дарогі № 687 адыходзіць павятовая дарога № 1635 Б. І акурат насупраць хаты нашага знакамітага літаратара красуецца гурт немалых ухабін у асфальце тае павятовае дарогі, на якія аўтар не наводзіць увагі чытачоў у сваіх творах; магчыма, што ранг павятовай дарогі — не раўня Янку Целушэцкаму. Але магчыма таксама і тое, што Янка Целушэцкі прыхавана трымае тыя ўхабіны ў якасці натхнення для сваёй творчасці: выгляне раніцай за акно і ўжо мае тэму для наступнага твора, пра Янку Целушэцкага.

Час — гэта назойлівы паганяты чалавека, таму пагнаў ён мяне далей. У Пацанове побач сябе два аб'екты — крама ды пункт прыёму малака; апошні зарастае сакавітай зеленню. А крама геэсаўская, таму па-за вызначанымі гадзінамі працы там пуста; калі б была яна прыватная, напэўна выконвала б яна набліжаную да кругласутачнай ролю навакольнага дома народнай культуры. Бывала калісь, што вазак, які злівал серабрысты напой у „млечарні", запраўляўся ў краме напоем залацістым, а конь дарогу дадому ведаў...

Сустракаю Юзіка. Юзік знае, што мяне знае, але не знае, як знае: „Skądś ciebie znam". Падаю яму мае асабістыя каардынаты, але ён ставіцца да іх як да нейкай абстрактнай канцыляршчыны. У яго канкрэтная праблема: ён кінуўся кінуць курыць. Дзеля гэтага пазашываў кішэні ў нагавіцах. Адну зашыў зусім, а другую крыху не дашыў. І туды можна ўсунуць або пару папяросаў, або запальнічку. І найчасцей бывае ў яго так, што калі ёсць адно, то няма другога. І ўсё стрэс, усё жыццёвыя ўхабіны.

Толькі развітаўся з Юзікам, як насустрач закалясіў на ровары Брат. „Шукаю жонкі, — заявіў ён мне. — Пазнаў адну талковую рускую, быў у яе ў Свіслачы, пасядзелі, выйшаў на вуліцу, заспяваў. І зараз з'явілася міліцыя і заперла мяне на суткі. Больш туды не паеду, а яна сюды не хоча ехаць. І тут ёсць адна, што за мяне пайшла б, але яна толькі на маю пенсію цікуе — пайшла яна нах". „То ты ажаніся са сваёй жонкай", — кажу яму. „О, не, ніколі больш! Ты ведаеш, што яна зрабіла? Я ў хлеўчыку трымаў бітончык, зайду туды, зачарпну кубачак-два, вып'ю і спяваю, рускія: „Рабінушку", „Брадзягу". А яна кажа, каб я лепш кантычку якую заспяваў. Лёгка казаць, а вазьмі і заспявай тую кантычку, выпіўшы дзве ці тры шклянкі. То яна, акаянная, вынюхала мой бітончык і наліла туды бутэльку мухазолю. Я чуў, што пах не такі як трэба, але выпіў кубак. Ну, а пасля завезлі мяне ў шпіталь і доктар сказаў, што калі б выпіў два, то быў бы мне капец. Можа ты будзеш знаць якую, то скажы мне", — папрасіў на развітанне.

За Старым Ляўковам на павятовай дарозе № 1635 Б у напрамку Лешукоў дарожны асцерагальны знак чыгуначнага пераезда без шлагбаўма, дзе вадзіцель павінен ехаць асабліва насцярожана, асцерагаючыся поезда. Адно толькі загвіздка ў тым, што ўжо ніякія паязды не перасякаюць таго пераезда *многая лета*. Ад „Цэрамікі" да пераезда рэйкі зусім прыбраны і адтуль поезд не прыедзе. Не прыедзе таксама з другога боку, ад чыгуначнай станцыі Нараўка, бо прыбраны рэйкі на пераездзе ваяводскай дарогі № 687, за Новым Ляўковам. Адзе такі асцерагальны знак перад поездам на дарозе, якой паязды не перасякаюць, напэўна спрычыняецца да насцярожанасці кіроўцаў і, такім чынам, да паправы бяспекі дарожнага руху. Варта было б такія знакі паставіць і ў іншых мясцовасцях, дзе не ездзяць цягнікі, напрыклад, у Ахрымах, Слабодцы ці Альхоўцы. „Цэрамік" там няма, але і ляўкоўская здаецца паволі зарастаць, так як наваколле зеленню, бледнай чырванню сцен вырабленых незапатрабаваных цэглаў, пачынаючы штораз больш нагадваць славуты чарнобыльскі саркафаг...

Вяртаюся на аўтобусе „Актобуса". У Новым Ляўкове дасядаецца Суседка, з ляшуцкіх хутароў, якая выбралася ў Гайнаўку. Пытаю, чаму не сядала бліжэй, у Старым Ляўкове або Лешуках. „Бо не будзе чым вярнуцца", — адказвае. Зусім не разумею адказу, таму тлумачыць мне дэталёва: „Пасля поўдня аўтобус з Гайнаўкі едзе толькі ў Новае Ляўкова, адкуль у напрамку Бандароў чэша цераз пусты лес, пакідаючы збоку і Старое Ляўкова, і Лешукі, і Міхнаўку. Таму я прыехала на маторчыку ў Новае Ляўкова, адкуль пасля на тым жа маторчыку вярнуся дахаты". Арганізатары аўтобуснага транспарту, відаць, чытаюць роднага класіка Янку Целушэцкага і кіруюць аўтобусы любімай яго ваяводскай дарогай № 687. А пра павятовую дарогу № 1635 Б ціха, на ёй трэба асцерагацца поезда, таму, відавочна, і аўтобусы яе мінаюць.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА (ч. II)

Успаміны Уладзіміра КЛІМЮКА, народжанага 18 лістапада 1923 года ў Цісоўцы, сына Іосіфа і Анастасіі.

Пару дзён да выезду нам прачыталі аб'яву, што Трэці Рэйх патрабуе рабочых рук на працу ў іншай мясцовасці. Зачыталі нам прозвішчы назначаных на выезд 1 мая 1942 года. У выпадку адмовы пагражалі суровыя кары назначанаму і ягонай сям'і. Не было ў мяне выбару — мусова было ехаць. Мой брат Іосіф збіў мне з фанеры малы куфэрак, які можна было замкнуць замком. У куфэрак паклалі мне бохан хлеба, крыху хлебных сухароў, кавалак соленай саланіны, сыр і масла ў драўлянай скрыначцы. З гэтакім багажом ды са слязьмі ў вачах маіх і сямейнікаў, перад выхадам з хаты маліліся мы ўсе да Бога, Ісуса Хрыста і Багародзіцы Марыі, каб мелі мяне пад сваёй аховай і каб дазволілі шчасліва і здарова вярнуцца да сям'і.

Час разлукі быў цяжкі, але немінучы. 1 мая 1942 года мы, назначаныя рабочыя, заехалі на станцыю ў Бельску-Падляшскім, там завялі нас у лазню, а пасля на лекарскую камісію. Стаялі мы голыя як абскубаныя гусі, падыходзілі спярша да лекаркі, якая правярала ці няма грыжы ў мужчынскіх органах. Я сарамліва адступіў, але лекарка, маладая полька, сказала не саромецца і трэба было паддацца праверцы. Чарговы лекар абследаваў стэтаскопам лёгкія і сэрца, заглянуў у рот, паглядзеў у вочы і загадаў апранацца. Калі я адзеўся, падышоў немец у форме і паказаў мне дзверы, але іншыя чым я ўваходзіў. Выйшаў я на пляц, дзе было шмат моладзі і дарослых мужчын. Пасля завяршэння лекарскага абследавання завезлі нас на станцыю Беласток, а там пагрузілі ў таварныя вагоны па 30-40 чалавек у кожны; дзверы вагонаў закрываліся звонку, а акенца зверху было з кратамі. Нагляд за намі пераняла вайскоўцы. Ніхто не ведаў куды нас павязуць. За ноч завезлі нас на станцыю Пагегі, што недалёка Клайпеды — цяпер у Літве, і там закватаравалі па дваццаць асоб у зале. З мая перадалі нас фірме „Bergbau". Займаліся мы ўтрыманнем пуцей, будавалі чыгуначныя веткі і выконвалі іншыя работы. Спалі ў двухпавярховых драўляных ложках. Пасцеллю быў напханы саломай сяннік ды саламяная падушка, прасцірадла не было. Накрываліся старымі працертымі пледамі. Пасярэдзіне залы стаяла жалезная печка, не магла яна, аднак, нагрэць такой вялікай залы і зімою вада там замярзала. Апрануты былі ў тое, у чым прыехалі, на ногі далі нам драўляныя клёмпы. З ежы давалі нам рана падоўжную буханку хлеба на тры асобы — па сорак дэкаграмаў на чалавека. Хлеб быў з прымессю атрубоў, спрэсаваны, цяжкі — і на цэлы дзень. Можна было яго з'есці адразу, але трэба было пакінуць на абед і вячэру. На снеданне ўвесь час давалі кавалак маргарыну, каля двух дэкаграмаў, без смаку, лыжку мармеладу з чырвоных буракоў або іншай гародніны і збожжавую каву, салоджаную сахарынам. На абед быў суп, пераважна з капусты або бручкі, часта падгнілай, ды крыху бульбы з рыбай. Суп быў жоўты зверху ад маргарынавай закраскі, якая нейтралізавала непрыемны пах ад нясвежай гародніны. На вячэру было паўлітра рэдкага ячнага супу, крыху падбеленага малаком. Хто з'еў хлеб рана і ў поўдзень, той пасля такой вячэры лягаў спаць галодны. За паратункам кожны пісаў да сваіх сем'яў, каб прысылалі харчовыя пасылкі. Пераважна прасілі хлебных сухароў і тлушчу, соленай саланіны, сушанага сыру ды масла ў шчыльных упакоўках. Пасылкі ішлі некалькі дзён і ў летнюю пару звычайны хлеб, асабліва свежы, зацвітаў і трацію прыгоднасць для ежы, а сухары сваёй вартасці не трацілі. Я ад сям'і многа не патрабаваў, бо ведаў, што яна жыве бедна, яе карміцелькай была карова, і свежае ці кіслае малако, смятана, сыр былі божым блаславеннем для маіх сямейнікаў. Дахаты я слаў мала пасылак, бо не было надта чаго. Бяльё для мыцця, некалькі кавалкаў зэканомленага мыла. Мыла было як гліна і можна яго было купляць у крамах без картак. Да таго ж іголкі, ніці, розныя бліскаўкі дзяўчатам, такія як каралі, аздобы для сукенак, брошкі, стужкі і т.п. Нам плацілі звыш дзесяці марак у месяц на дробныя выдаткі, такія як маркі на лісты, падачу пасылак і куплю дробязей. Пасылак не клалі ў кардонкі, але ў звычайныя шчыльна завязаныя мяшочкі, да якіх прышывалі кавалак белага палатна з напісанымі адрасамі атрымальніка і адпраўніка.

У фірме працавалі мы з 7-й да 16-й гадзіны з гадзінным перапынкам на абед. У бараку загадчыкам быў лагерфюрэр. Пасля працы можна нам было хадзіць па горадзе, а па нядзелях не працавалі і кожны праводзіў час па-свойму. Хто пісаў лісты, хто цыраваў вопратку, хто прамываў рэчы. У горадзе нельга нам было хадзіць па тратуары і наведваць кіно. Далі нам квадратную адзнаку з фіялетавай літарай „Р" на жоўтым фоне з фіялетавым абрамленнем. Такую адзнаку мы мусілі прышыць на борце вопраткі або ў іншым відочным месцы. Такая адзнака прыніжала годнасць чалавека, паляка, але мы там асабліва не турбаваліся. Пераязджалі чыгункай цераз мост на Нёмане. Мост быў разводны, каб па вялікай і глыбокай рацэ маглі ў вызначаны час плаваць караблі; быў ён для нас вялікай навізной. Другой навізной, якую я там пабачыў, была двухконная касілка; немцы ўжо касілі касілкамі, а мы яшчэ косамі. Пабачыў я таксама, як маладая немка зграбала сена ў валкі коннай грабілкай. Высушанае сена забіралі коннымі вазамі ў стадолы, а недасушанае складвалі ў капіцы, так як у нас, а пасля, у пагоду, растрасалі і дасушвалі.

Запамятаў я выпадак, калі сена ўжо было сухое і можна яго было забіраць у стадолу. Было каля 11-й гадзіны на поўдзень, пачало збірацца на дождж, зводдалі даносіўся глухі гул грому, даходзіў поўдзень. Можна было нешта з тым сенам зрабіць, але гаспадары — двух мужчын і дзве жанчыны — заселі да абеду, які доўжыўся паўгадзіны. Пасля абеду лінуў дождж і яны схаваліся пад воз. У немцаў абед — гэта абед, і ў той час нішто іншае іх не турбуе; хіба што здарыцца выпадак — тады ўгамону ў іх няма.

У Пагегах працавалі мы да зімы, пакуль можна было выконваць зямныя работы. На зіму 1942/1943 перавялі нас у Тыльзіт, дзе сталі працаваць у паравозным дэпо. Грузілі мы там на паравозы вугаль з вагонаў і загародак, чысцілі лакаматывы. Засталі мы там савецкіх ваеннапалонных, якія працавалі пры разгрузцы вугалю ды рамонце пашкоджаных вагонаў; пільнавалі іх два ўзброеныя нямецкія жаўнеры. Неўзабаве пасля нашага прыбыцця іх кудысь забралі, а завесці з імі размову не было ў нас магчымасці.

У Тыльзіце нашы баракі былі за горадам, побачаднапуцёвай чыгуначнай лініі, па якой ездзілі пасажырскія прыгарадныя цягнікі — такія, як калісь у нас ездзілі з Гайнаўкі ў Белавежу. Лакаматывы тых паяздоў безупынна званілі дзынь-дзынь-дзынь, асцерагаючы людзей і звярыну на працягу цэлых сутак.

У Пагегах і Тыльзіце кожны з нас меў шафку, у якой трымаў свае дробныя рэчы, ежу і грошы; не было выпадку, каб што каму прапала. Некаторыя свае шафкі замыкалі, але большасць, у тым ліку і я — не. Ежа была такая самая, як і ў Пагегах. Пабудка была ў шэсць гадзін раніцы і — зімою і летам — беглі мы ў нагавіцах і клёмпах, без кашуль, з ручнікамі, пад помпу з вадою, дзе адзін пампаваў ваду, а некалькі іншых мыліся. У маразы, завірухі ці дажджы таксама не было змілавання — за гэтым парадкам сачылі адпаведныя органы. Пасля снедання быў выхад на работу на 7-ю гадзіну.

У драўляных клёмпах было нявыгадна хадзіць, то я сабе пашыў лапці з гумы. На пуцях валяліся гумава-брызентавыя правады, якімі падавалася водная пара на тармазныя калодкі кожнага вагона ў час стаянкі. У нас, на ўсходзе нашай краіны да вайны 1939 года мужчыны абувалі гумавыя лапці, абвіваючы з вясны да восені ступні палатнянымі анучамі, а зімою ваўнянымі, якія засцерагалі ступні ад маразоў. Лясныя работнікі таксама хадзілі на працу ў лапцях, якія былі танныя і выгаднейшыя за скураны абутак.

У бараках спакою чалавеку не давалі вошы і клапы. Вошы найчасцей сядзелі пад пахамі і пад каўнерамі бялізны, а клапы мелі свае гнёзды ў шчылінах драўляных сцен і ложкаў, у саламяных сенніках, адкуль выходзілі на жор, пераважна ноччу, атакавалі чалавека выпіваючы з яго кроў. Раздушыш такога клапа, а з яго пырскае твая кроў. Вошай душылі ногцем вялікага пальца рукі ў швах бялізны; любілі яны свежую бялізну і пах цёплага цела. Давалі дуст (azotox) для пасыпвання ложкаў — такі сам, якім у нас знішчалі каларадскага жука.

У адну летнюю суботу 1943 года лагерфюрэр загадаў агульную чыстку залы. Прывезлі салому ў кулях, сеннікі разам з ложкамі загадалі вынесці на пляц, дзе над вогнішчам быў завешаны вялікі кацёл. У сенніках і падушках была сечка — так высцерлася мінулагодняя салома. Кожны як мог, так знішчаў клапы ў сваёй пасцелі, а пасля напіхалі салому ў сеннікі і падушкі — як найбольш, бо хто годам раней напхаў мала саломы ў сяннік і падушку, то пасля нейкага часу яна сцерлася і трэба было спаць амаль на голых дошках. Ложкі разабралі і палівалі кіпяткам. Падлогу і вокны памылі гарачай вадой, але што з таго, калі не ўдалося вынішчыць паразітаў у сценах і столі. Папрыносілі на свае месцы двухпавярховыя драўляныя ложкі ды сеннікі і падушкі напханыя свежай саломай. Здавалася, што ўжо можна будзе выгадна і спакойна спаць, але гэтая раскоша хутка скончылася. Уцалелая гадасць забралася за сваю справу са здвоенай энергіяй, а чалавек аказаўся бяссільным, стомлены фізічнай працай спаў цяжкім сном. Рана ўставаў памыць хаця твар, а цела выглядала так, быццам хто высцебаў свежай крапівой — скура была ў чырвоных палосках. У такіх умовах жылося ў бараках — іншага выхаду не было.


Паравоз у Пагегах


Грабількі каля Пагегаў

Вялікім клопатам было сушэнне вопраткі; не раз у працы прамокнеш пад дажджом, прыйдзеш мокры, празябнуты, не маеш сухой верхняй вопраткі на змену, а ў бялізне сядзець не будзеш. Мокрае адзенне вешалі на ложках і сценах, а на другі дзень у такім недасушаным адзенні трэба было ісці на працу. Нямецкія майстры, якія вялі працы пад адкрытым небам, мелі непрамакальныя плашчы, а чужаземны рабочы, які працаваў на іх дабро, быў прыніжаны маральна і фізічна. Было адно добра, што не трымалі нас за кратамі і можна было карыстацца свабодным часам. Я ведаў, у якой цяжкай сітуацыі былі мае бацькі, недаядалі самі, а стараліся нейкую ежу выслаць сыну і брату. Пасылкамі займаўся мой старэйшы брат Іосіф і саграшыў бы я, калі б сказаў нешта нядобрае пра яго клопат за маё і апошніх сямейнікаў жыццё.

Нашы баракі былі за горадам, недалёка ад нас на хутарах жылі немцы, у якіх былі меншыя ці большыя гаспадаркі. У буйнейшых гаспадароў, баўэраў, пастаянна працавалі замежныя рабочыя. У вольныя ад працы хвіліны наведваў я тыя меншыя гаспадаркі, каб дапамагчы ў полі ці на панадворку. Прывяду адзін такі выпадак. Прыходжу на панадворак, гаспадарка невялікая, старая невялікая хатка, гаспадарчыя будынкі таксама адджывалі свой век, на панадворку стары і малады мужчыны, за стадолай пасвіўся конь. Прывітаўся я з імі панямецку і сказаў, што хацеў бы дапамагчы пры нейкай рабоце. Малады немец адказаў, што прыйшоў я ў добры час, бо збіра-

працяг ☞11

# Трансгранічны летнік над Семяноўкай

**Каля 30 беларускіх праваабаронцаў, грамадскіх актывістаў, гісторыкаў і мастакоў сустрэлася над Семяноўскім вадасховішчам на летніку «За еўрапейскую інтэграцыю Беларусі», ладжаным Альянсам «Грамадзянская Гарадзеншчына». Падчас мерапрыемства прайшлі сустрэчы з беларускімі дзеячамі Падляшша. Усё гэта, каб завязаць бліжэйшае супрацоўніцтва і інтэграваць беларусаў, пражываючых па абодвух баках мяжы.**

— Мы запрасілі людзей з розных гарадоў Гарадзенскай вобласці, — кажа Васіль Клімовіч з Альянсу «Грамадзянская Гарадзеншчына». — Мы хацелі зрабіць летнік, каб аб'яднаць гэтую суполку, каб больш было інтэграцыі і камунікацыі. Каб людзі знаёміліся, размаўлялі і развіваліся ў рамках летніка.

Міжрэгіянальны інтэграцыйны летнік гэта першы гэтага тыпу праект, накіраваны на інтэграцыю грамадскіх актывістаў з абодвух бакоў мяжы. Удзельнікі летніка гэта перш за ўсё беларускія дзеячы з розных гарадоў Гарадзеншчыны: Зэльвы, Мастоў, Ваўкавыска, Шчучына ды Слоніма.

Чаму Семяноўка?

Семяноўка, расплажаная сярод нескажонай прыроды, прыцягвае турыстаў не толькі з Падляшша, але і з-за мяжы. Блізкасць Нараўчанскай гміны да Гарадзеншчыны, супольная культура і мова вырашылі аб гэтым, што якраз тут прайшоў міжрэгіянальны летнік. На Беларусі пакуль што немагчымым з'яўляецца павесіць побач сябе (як гэта зрабілі ўдзельнікі летніка) бел-чырвона-белы сцяг, сцяг салідарнасці з Украінай, сцягі польскі і еўрапейскі. Гэтыя луналі паміж дзвюма соснамі, звяртаючы ўвагу на адкрытасць і свабоду думак, якімі абменьваліся ўдзельнікі і госці летніка.

— На Беларусі, — тлумачыць Алесь Зарэмбюк з Беларускага дома ў Варшаве, — за тыя сцягі летнік быў б закрыты і настрой большасці людзей быў бы папсаваны. Дадаткова большасць з нас магла б атрымаць адміністрацыйныя пакаранні. Тут, у Польшчы, на самой мяжы з Беларуссю можна спакойна дыскутаваць.



Фота Улі ШУБЗДЫ

■ Удзельнікі летніка «За еўрапейскую інтэграцыю Беларусі».

Мэта:

Пазнаёміцца з беларусамі Падляшша, з іх гісторыяй, з рэгіёнам — гэта асноўная мэта летніка. Адна супольная мяжа, якая рассякае Гарадзеншчыну і Падляшша, раздзяляе землі, але і людзей, якія спрадвечна тут жылі. У летніку прысутнічалі беларусы, якія маюць еўрапейскі пашпарт і тыя, якія маюць пашпарт з «капустай». Аднак яны ўсе размаўляюць на адной беларускай мове і робяць адну справу. На думку арганізатараў, кантакты паміж абодвума рэгіёнамі занядбаныя, а павінна кантактаў быць больш. Таму гэта над Семяноўкай, у месцы, дзе гучыць беларуская мова, на памежжы сарганізавалі летнік. Цягам двух тыдняў гасцявалі тут вядомыя дзеячы, лідары беларускай супольнасці з Гарадзеншчыны і Падляшша. Летнік наведаў, між іншым, доктар гістарычных навук і аўтар шматлікіх кніжак Алег Латышонак, старшыня Саюза беларусаў у Польшчы, галоўны рэдактар «Нівы» і Радыё Рацыя Яўген Вапа ды шмат іншых беларускіх дзеячаў і актывістаў. Гэтыя сустрэчы і супольныя дыскусіі мелі наблізіць беларусаў з абодвух бакоў мяжы.

Некалькі ўдзельнікаў летніка спынілі на мяжы за беларускія выданні. Былі гэта кнігі «Palitviazni.info» пра палітычных зняволеных у Беларусі, а таксама выданні тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва». Як сказаў для Радыё Рацыя Павел Севасцян са слонімскай суполкі БНФ, кніжкі і газеты ўзялі на цэнзуру, праверыць ці напэўна няма там нічога супраць улады.

Арганізатары ўжо заявілі, што плануюць наладзіць падобны летнік у наступным годзе. Чарговая сустрэча будзе яшчэ больш цесна аб'ядноўваць дзеячаў з Падляшша і Беларусі.

Уршуля ШУБЗДА

# http://praleska.org

Зaўсёды прыемна, хоць бы віртуальна, знаёміцца з беларусамі, якія ўдалечыні ад сваёй радзімы зберагаюць культуру і мову. У цяперашні час, і тым больш у дачыненні да прадстаўнікоў нашай нацыянальнасці, гэта шмат што значыць. Бо ў адрозненні ад іншых народаў, беларусы нават мовы сваёй саромяцца, не кажучы ўжо пра тое, каб неяк захоўваць сувязі між сабой, калі жывуць у далёкім замежжы.

Неаднаразова было заўважана, што беларусы вельмі выгодныя перасяленцы ў іншыя краіны. Яны хуценька вывучваюць тамтэйшыя мовы і таксама хуценька інтэгруюцца ў тамтэйшае грамадства, не заўважаючы імгненнай асіміляцыі. Здаецца, добра і «прымаючаму боку», і ўласна беларусам-імігрантам. Праўда, апошнія канчаткова парываюць сувязь са сваёй культурай і мовай. Таму казаць аб нейкай сапраўды моцнай беларускай эміграцыі, такой як, напрыклад, украінская, не выпадае. А гэта мінус у першую чаргу для цэлага беларускага этнасу, голасу якога практычна не чуваць не тое, што ў свеце, але і нават у Еўропе.

Праўда, не ўсё так кепска. І ў далёкіх, а таксама не вельмі далёкіх краінах ёсць беларусы, што кідаюць выклік распаўсюджанаму меркаванню аб імкненні прадстаўнікоў сваёй нацыі да, хай сабе несвядомай, але хутчэйшай асіміляцыі. Адным з прыкладаў тут можна назваць беларускі дом «Пралеска», які дзейнічае ў сталіцы Эстоніі. Каб бліжэй з ім пазнаёміцца, трэба набраць на сваім камп'ютары адрас http://praleska.org.

Дадзены сайт выглядае неяк па-дзіцячаму — элементы дзіцячых малюнкаў на белым фоне, расфарбаваныя валасы і рукі некага дзіцёнка ўспрымаюцца вельмі пазітыўна. Пазітыву дадаюць і фотаздымкі з тварамі дзяцей і дарослых, якія ўсміхаюцца. Праўда, ёсць тут невялікі недахоп — здымкі ніяк не падпісаныя, таму даведацца хто там і чаму ўсміхаецца магчымасці няма.



Але гэты недахоп — невялікая драбяза ў параўнанні з мэтамі, якія ставіць перад сабой «Пралеска». «Наш беларускі дом «Пралеска» — гэта ўтульнае месца ў самым сэрцы старога Таліна, пад дахам якога збіраюцца ўсе, хто цікавіцца культурным жыццём па-за палітычнымі, геаграфічнымі і сацыяльнымі рамкамі. Наша запаветная мара — стварыць вялікую і дружную сям'ю беларусаў у Эстоніі, і таксама пазнаёміцца і пасябраваць з эстонскімі суседзямі. З 2011 года ў нас ладзяцца цікавыя сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі і паэтамі, цёплыя нацыянальныя святы, гутаркі за круглым сталом і кубкам чаю. Тут мы гаворым на тэмы, блізкія ўсім, хто разумее словa культура вышэй нацыянальных і дзяржаўных меж», — распавядаюць пра «Пралеску» яе актывісты на старонцы «Пра нас».

Згодна з пададзенай інфармацыяй, з верасня 2011 года ў «Пралесцы» дзеці ўсіх узростаў і нацыянальнасцей знаёмяцца з беларускай мовай і культурай, нацыянальнай гісторыяй і традыцыямі. «Дзеці нашага дома творчасці хутка растуць, знаёмяцца з эстонскай культурай, не забываючы пра свае беларускія карані», — запэўніваюць у «Пралесцы». І калі гэта насамрэч так, то за эстонскіх беларусаў можна быць спакойным — яны не забудуцца на сваё імя.

Што ж тычыцца ўласна сайта, то ён адлюстроўвае актыўнасць сяброў «Пралескі» ў фотаздымках і невялікіх нататках. Інтэрнэт-прадстаўніцтва апантаных беларушчынай у Таліне мае дзве моўныя версіі — беларускую і рускую.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

### Застаўся верным ідэалам БНР

# 135 гадоў з дня нараджэння Пётры Крэчэўскага

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады БНР Пётра Крэчэўскі нарадзіўся 7 жніўня 1879 г. у вёсцы Дубна (сучасны Мастоўскі раён). Доўгі час дакладнае месца нараджэння Крэчэўскага было невядомым, у розных папулярных выданнях пазначалася — Кобрынскі павет, пакуль гісторык Лена Глагоўская дакладна гэтага не ўстанавіла. Цікава, што і яго прозвішча ў розных крыніцах пішацца па-рознаму: у адных — Крэчаўскі, у іншых — Крэчэўскі. Біяграфія выдатнага дзеяча шырокаму колу амаль невядомая, энцыклапедыі і даведнікі падаюць дастаткова скупыя звесткі пра яго. Пётра Крэчэўскі ў 1902 г. скончыў Віленскую духоўную семінарыю, нейкі час настаўнічаў. У 1909-1914 гг. працаваў у Віленскім дзяржаўным банку. Перад Першай сусветнай вайной працаваў настаўнікам на Беласточчыне, у Ялоўцы. З 1914 г. быў на вайсковай службе. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Расійскай імперыі стаў старшынёй Барысаўскага савета салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Быў дэлегатам Усебеларускага з'езда 1917 года. У 1918 г. увайшоў у склад кіраўнічых органаў БНР, быў у складзе Народнага сакратарыята, дзяржаўным кантралёрам, народным сакратаром фінансаў, народным сакратаром гандлю і прамысловасці, узначальваў Цэнтральную беларускую гандлёвую палату. Быў адным з лідараў Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. 13 снежня 1919 г. Крэчэўскі быў абраны прэзідэнтам Рады БНР. Выконваў гэтую пачэсную місію да канца жыцця. З 1920 г. быў на эміграцыі ў Літве, Чэхаславаччыне. У Празе стварыў Прадстаўніцтва Рады БНР, разгарнуў шырокую дыпламатычную дзейнасць, наладзіў інфармаванне заходнееўрапейскіх краін пра становішча ў БССР і Заходняй Беларусі. Адназначна асудзіў ганебную Рыжскую дамову 1921 г., паводле якой падзялілі беларускія землі. Дзеля гэтага адмыслова склікаў з 26 верасня па 30 верасня 1921 г. Першую Нацыянальна-палітычную нараду беларускіх арганізацый з акупаванай бацькаўшчыны і з-за мяжы, якая асудзіла польска-бальшавіцкую змову і пацвердзіла ідэалы незалежнасці Беларусі. Таксама асудзіў рашэнні Другой Усебеларускай канферэнцыі, якая прайшла ў 1925 г. у Берліне. Крэчэўскі ўсімі сіламі актыўна супрацьдзейнічаў бальшавіцкаму ціску, скіраванаму на ліквідацыю Урада БНР, прынцыпова не прызнаў легітымнасці БССР.

Пётра Крэчэўскі дамогся ад урада Чэхаславаччыны стыпендый для беларускіх студэнтаў, стварыў Беларускі архіў у Празе. У 1926 г. выдаў палітычна-навуковы альманах „Замежная Беларусь". Крэчэўскі — аўтар вершаванай паэмы „Рагнеда", вершаў, розных перакладаў з чэшскай і ўкраінскай моў. Каштоўнасць маюць і яго працы „Беларусь у мінулым і сучасным (нарыс геаграфічнага, гістарычнага і эканамічнага доследу)", „Гісторыя беларускай кнігі", „Мандаты БНР", „Скарына і незалежнасць".

Памёр прэзідэнт БНР Пётра Крэчэўскі 8 сакавіка 1928 г. у Празе, пахаваны на вядомых Альшанскіх могілках. На магіле адметны помнік. Памяць у сучаснай Беларусі пра гэтага выдатнага дзеяча не ўшанавана ніяк. Толькі ў прыватным Старадарожскім музеі захоўваюцца некалькі партрэтаў Крэчэўскага.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Чаромхаўскі аповед (15)

Пасля здачы ў карыстанне вакзала ў верасні 1989 года пачалі мы перамяшчаць канторы ў адміністрацыйна-тэхнічны павільён. У падвале трохпавярховага корпуса вызначылі месца на станцыйныя склады. Паколькі мне прыходзілася выязджаць у камандзіроўкі, таму зацягвалася канторная работа. Падаў я заяву ў Сядлецкае аддзяленне рухова-гандлёвай службы з прапановай прызначыць дадатковы штат. На пасаду кладаўшчыка прапанаваў я дачку, якая мела эканамічную адукацыю і была беспрацоўнай. Закон дапускаў такую магчымасць у выпадку афармлення на працу асобы, якая б несла матэрыяльную адказнасць. Заява была аформлена станоўча. Я меў заступніка на рабоце.



Старшы лейтэнант Ігар Рамановіч з жонкай і дачушкамі

На зломе 1989/1990 гадоў пачалася гаворка аб вывадзе савецкіх войск з Польшчы. Перш-наперш пачалі выязджаць сем'і вайскоўцаў з Германіі. На чыгуначны пагранпераход Чаромха — Высока-Літоўск кіраваліся вайсковыя цягнікі з цывільнымі перасяленцамі ды іхняй маёмасцю. У таварных вагонах-вяртушках ехалі жонкі афіцэраў з дзеткамі, а разам з імі ў кантэйнерах — іхнія „домвешчы”. Гэта былі апошнія месяцы службы падпалкоўніка Славаміра Сала, Аліка Панасевіча і Ігара Рамановіча ў чаромхаўскім ЗКУ. Канчаўся ім пяцігадовы перыяд службы па кантракце.

Камандзіру не пашанцавала ў сямейным жыцці. Сужонства Сала мелі праблему з дзецьмі. У іх былі дзве дачкі. Меншая, школьнага ўзросту, была хваравітай. Патрабавала мацярынскага догляду. А старэйшая, сямнаццацігадовае дзяўчо, гуляла быццам вецер у полі. Сябравала з дачкой Бронка Грыцюка. Дзяўчынкі дамоў вярталіся познімі вечарамі. Людка за дачку моцна перажывала. Славік не знаходзіў часу для дачок, папіваў з кампаньёнамі. У час адной п'янкі сябрукі абакралі палкоўніка на кватэры. Забралі яму значную суму грошай. Калі выявілася праўда аб кражы, у сямействе ўчыніўся закалот. Людка прыгразіла мужыку, што заявіць у міліцыю. Махляры спалохаліся, вярнулі Славіку грошы. Не ўдалося аднак вярнуць спакою ў сям'і Славаміра і Людмілы Салаў. Не сцярпела жонка мужавай п'янкі, таму пакінула яго на волю лёсу. Забраўшы з сабою дачок, падалася да бацькоў на Украіну.

ЗКУшнікам у час перасялення падстаўлялі пад рампу вагон, у які грузілі яны сваю маёмасць. Непрыдатныя рэчы перасяленцы прадавалі, або пакідалі ў падарунку знаёмым чарамшанам. Перасякалі яны мяжу па прамой лініі Чаромха — Высока-Літоўск. Не выпала мне на долю развітацца са Славікам Салам. Адно чарку віна выпіў я з Людкай і Марынай, жонкай Аліка Панасевіча ў час разлічвання іх з інвентарнай кніжкі. Падпалкоўніка Славаміра Салу заступіў падпалкоўнік Аляксей Голікаў. Ён узначальваў чаромхаўскае ЗКУ па апошнія дні вываду савецкіх войск з Германіі ды Польшчы. Паводле аповеду Янкі Шабалоўскага, разам з Голікавым засталіся шафёр Ігар Кандрашын, лейтэнант Дзіма, маладзенькі кавалер, які пазней ажаніўся ў Брэсце і там пасяліўся. Іншыя прозвішчы маладых афіцэраў каманды Аляксея Голікава не запамяталіся. ЗКУшнікам давезлі цыстэрнай 8 тон паліва для службовай машыны. Паколькі не маглі яго складаваць у Чаромсе, дык паводле дамовы разгрузілі на аўтазапраўцы ў ПГРы ў Кляшчэлях. Там праз бліжэйшы час Ігар запраўляў свой газік. Па даўнейшай звычцы ЗКУшнікі бралі бензін і салярку з вайсковых цягнікоў, якія з тэхнікай вярталіся з Нямеччыны ў Савецкі Саюз. Гэтае паліва прадавалі ў навакольных вёсках і такім чынам эканомілі сабе „касу”. Канчаткова афіцэры Савецкай Арміі выбраліся з Чаромхі на зломе 1993/1994 гаодоў са сваім начальнікам падпалкоўнікам Аляксеем Голікавым. Іхнія кватэры і офіс былі перададзены чаромхаўскім чыгуначнікам. Рускую лазню ў жылым корпусе разбурылі самі чыгуначнікі, забраўшы сабе самыя каштоўныя рэчы. Службовага паліва шафёр Кандрашын у кляшчэлеўскім ПГРы не выкарыстаў. Разграбілі яго ПГРаўскія работнікі. Як гаварыў мне Янка Шабалоўскі, Ігар Кандрашын купіў на аўтарынку ў Ломжы сучасную мадэль „Волгі” і на машыне падаўся ў Саюз. Ягоны кампаньён, шафёр Валодзя з Седльцаў купіў аўтобус у прафсаюзнай чыгуначнай арганізацыі паравознага дэпо і таксама адправіўся дамоў на „трафейнай” машыне. А Славіка Сала няма ў жывых. З Людкай разышліся. Яго пачаткова прызначылі служыць ва Украіне, але адмовіўся.

— Два разы той жа самай прысягі даваць не буду, — гаварыў чаромхаўскаму прыяцелю ў час развітання.

Накіравалі Славаміра Салу на Далёкі Усход. У час падарожжа загінуў трагічна па невядомай нам прычыне.

Гэта ўсё, што захавалася ў маёй і маіх калег па рабоце памяці аб савецкіх ЗКУшніках у Чаромсе.

**Уладзімір СІДАРУК**

9 ☞ працяг

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА

юцца абгортваць коннай сошкай бульбу. Ён запрог каня ў сошку, а я трывожуся, як справіцца з такой работай, якой я ніколі не выконваў. Бяру сошку за ручкі, а той малады мужчына, які — аказалася — быў сынам старэйшага, сказаў мне, што абворваць будзе ён, а мне трэба будзе вадзіць каня; мне тады быццам камень зваліўся з сэрца. Пасля работы ён выпусціў каня на пашу, а мяне запрасіў у хату на пачастунак. На стале стаяла столькі ежы, што мне аж мову заняло — як з такой ежай абыходзіцца. Яшчэ да прыходу ў хату мы памылі рукі і твары, выцерліся ручнікамі каля студні, абутак пакінулі ў сенцах. Я сачыў за ягонымі рухамі: як ён паслугоўваецца сталовымі прыборамі і еў тое, што і ён. Пасля ежы быў гарачы чай. У пакоі я заўважыў флоцкі мундзір. Ён сказаў мне, што з'яўляецца капітанам ваеннага карабля і прыехаў да бацькоў у водпуск каб памагчы ім на гаспадарцы. На развітанне далі мне бутэрброд з вяндлінай. За сталом я еў памяркоўна, усё было смачнае. Можна было з'есці многа, але гэта магло б пашкодзіць пастаянна галоднаму страўніку. Я ім падзякаваў за такі багаты пачастунак, а яны мне за дапамогу. Развіталіся мы і больш не ўдалося мне іх наведаць. Памагаў я і ў некалькіх іншых гаспадароў — заўсёды кармілі і давалі нейкую ежу з сабою; грошай не давалі. **(працяг будзе)**

**Спісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Адгаданка

1. мангольскае жыллё, 2. царкоўны сігнальны інструмент, 3. дзікае пладовае дрэва, 4. беларускі нацыянальны герб, 5. буйны бакавы адростак ад ствала дрэва, 6. колішняя еўрапейская залатая манета вагой у 3,5 грама, 7. родны горад Антона Чэхава, 8. дол, варонка, 9. кухонная пасудзіна з таўкачом, 10. колішняя магутная прыбалтыйская дзяржава з Кёнігсбергам.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | | | | |
| | | 3 | | | | | | | 4 |
| | | | 5 | | | | | | |
| | | 6 | | | | | 7 | | |
| 8 | | 9 | | | | 10 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 29 нумара**

Буда, гул, дама, куль, піяніна.

Рашэнне: **Гні дубіну пакуль маладая**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 10.08 — 18.08

**(22.03. — 20.04.)** Навучыся асертыўна адмаўляць, бо інакш іншыя прыдушаць цябе сваімі патрабаваннямі. 13-17.08. твая воля будзе моцная! Будзеш энергічны, вясёлы. Да 11.08. можаш спраўна пазбыцца кепскай звычкі. Старайся не марудзіць і не ныць на працы.

**(21.04. — 21.05.)** Час выдаткаў; старайся не раскідвацца грашыма. На працы знакаміта дасі сабе рады ў кожнай сітуацыі, раз будзеш пачцівы, іншы раз бязлітасны і няўступчывы. Захочацца змен — працы, абсягу абавязкаў. Дацэняць тваю інавацыйнасць, умеласць супрацоўніцтва. Вялікі поспех перад табою, таму шукай і сягай па больш. З 15.08. з поспехам сядзеш на дыету.

**(22.05. — 22.06.)** У пары будзеш шукаць дзіркі ў цэлым, ахвотна схочаш усё кантраляваць. Пойдзеш наперакор блізкім сябрам, ахвотна паспрачаешся за драбязу, якая вырасце аж да неба. Знайдзі сабе канструктыўны занятак. Энергію дастанеш пасля 15.08. Паспрабуй прымяняць метады натуральнай медыцыны. З 15.08. расправішся з мінулым, зменіш навыкі, пачнеш тое, на чым табе залежыла.

**(23.06. — 23.07.)** 10.08 будзеш надрэактыўны, схільны да агрэсіўных паводзін. А якраз цяпер можаш наладзіць нейкую важную справу, супрацоўніцтва. Трымай вочы вакол галавы — на працы можа паказацца шкоднік (на рабоце добра трымай з калектывам). Ажыўленне ў пачуццёвым жыцці. Зоркі прынясуць нагоды і прапановы, якія для цябе будуць поўным сюрпрызам. Падумай і добра выберы! Ды дома не будзеш з усімі ў ладах. Дбай аб сваю пячонку.

**(24.07. — 23.08.)** Выдатны настрой. Трапіш камусьці ў вока, каму вельмі залежыць на ўзаемнасці; доўга не раздумвай. 13-17.08. атрымаеш важныя весткі. Адразу паправіцца твой настрой, бо акажацца ўсё лепш, чым ты меркаваў. Але магчымыя праблемы са здароўем (9-11.08.), стрэс, некарысны час на падарожжы, старайся не ездзіць самаходам.

**(24.08. — 23.09.)** Новыя задумы акажуцца быць стрэлам у „10”, але з іх практычным выкарыстаннем могуць быць праблемы. Не бярыся за некаторыя справы неабдумана (з 17.08.). Чуласць і зразуменне ў пары; вернецца табе спакой, з надзеяй глянеш у будучыню. Не павучай і не крытыкуй іншых. Разглянься за іншым заняткам. Запішыся на курсы павышэння кваліфікацый.

**(24.09. — 23.10.)** Дбай аб сваё здароўе і настрой. З 11.08. паявяцца ў цябе схільнасці да рызыкі! Можаш кінуцца на такое, што дагэтуль здавалася для цябе быць жахлівым! Асцерагайся жары і пі многа чыстай вады. Маеш шанц добра падзарабіць, добра спланаваць капіталаўкладанні.

**(24.10. — 22.11.)** 10-11.08. будзеш стомлены; старайся не ўключацца ў стамляльныя мерапрыемствы. 13-17.08. зможаш пазбегнуць памылак і зрабіць разумныя інвестыцыі. Кідаючыся ў вір падзей, пакаштуеш чагосьці новага. Настройся на кар'еру. Нават калі паявіцца шкоднік, не дасць табе рады. Добра ў ладах з дзецьмі. А новаму знаёмаму не дай табою лішне кіраваць і ўлазіць у тваё жыццё.

**(23.11. — 22.12.)** Маеш шанц наладзіць новыя цікавыя знаёмствы, некаторыя з іх працягнуцца на гады (10-14.08.). Знойдзеш час на каханне. Многа радасці ў кантактах з дзецьмі. Можаш натрапіць на некалькі спрытных задум як раскрунуць бізнес.

**(23.12. — 20.01.)** 10-11.08. не ідзі напрасткі ў жыцці і справах. А ў галаве ў цябе да 12.08. адно любоў! А калі выбраў ты жыццё сінгла, зарабляй грошы і падарожнічай. Зафундуй сабе досыць многа руху (13-17.08.) — ровар, байдарку, генеральныя парадкі дома...

**(21.01. — 19.02.)** Пазнаёмішся з кемлівай, цікавай асобай, разам можаце рабіць шмат добрага. 10-11.08. знакаміты час на твае бравурныя дзеянні; у час поўні Месяца ўбачыш некаторыя справы ў новым святле; магчымыя нямілыя інфармацыі. 10 і 11.08. не ідзі на хірургічныя аперацыі!

**(20.02. — 21.03.)** Выдатны настрой. Многа абавязкаў і фармальнасцей, але з усім справішся. Пасля 15.08. не будзеш хадзіць на самотныя шпацыры! З 17.08. (да 21.08.) будзь вельмі разважлівым, каб не нарабіць сабе праблемаў. Слухай парад зычлівых людзей. Не будзь прагным!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.



# Фінь-Фінь-Шуй




Аглухла нявестка мая! А што ў хаце — чую, плача як бабёр! Гэй, глухандзя, чаго выеш?..

— Х-т-о там?..

— Адазвалася, тут стаіць г-і-п-а-п-о-т-а-м! Адкрывай! Паўдня вісець буду на гэтых брудных сходах? Замест яўкаць — памыла б ступенькі хоць вадой звычайнай!.. Ключа не знойдзеш? Свету перастаўленне! Чаго цешчы не пускаеш, свякрухі залатой-серабрыстай? Адмыкай, ты што — голая? Ды я цябе і такой бачыла, цымас ты вялікі, я ж не мужыкпатрэбнік!..

— Надумалася!... Маць мая я-п-о-н-і-я-а-а-а! Ты хто будзеш? Звяруга з возера Лох Нэс, ці цуда-юда-рыба-кіт? Чаму ты твар свой т-а-к памармузэліла, нявестка? Каго паказаць збіраешся?.. Доўга на парозе трымаць мяне будзеш, нявестка не з таго цестка! Чартапалох у красках?.. У хату пускай госцю дарагую, мяне, значыць, цешчу святлейшую! Стаіш як балван-снегавік, вампір размалёваны! Ну, паліто забяры, дзявіца красная, і сеткі, валізку на! Есці прывезла, каўбасы вэнджанай і іншай яствы-стравы-прадуктаў, бо ж вы тут зубы на градкі палажылі, ашчаднасць! Грашэй шкада, усе еўра ў сундук складваеце!..

— Ну, пасадзі салодкасць-шакаладніцу прыезджую, свякруху сваю! Чайнік пастаў з вадою — а ён яшчэ ёсць у вас, што я купіла? Не будзе мяне — у вас бы і вада з крана не цякла б! І не сморкайся болей, слухаю — што за напасць на цябе? Чаго ж ты — мода новая ў вас? Узоры гэткія сабе, па ўсёй патэльні, нарысавала пяцю шмінкамі? Пудры насыпала, як цэменту? Няўжо ў міс горада збіраешсяпхаешся?.. Пэўна, і гэта можа якая ў цябе работа-забота: Мішку абед зварыць, і то без солі-долі, чай без цукру, каўбасы без мяса; пылішчы не выціраеш, хоць званю-спраўджаю, трэба будзе гэты фэйсбук уставіць, ці як там: інтэр-пінтэр-свінтэр, кажуць, што гаворыш і бачыш з кім, во, цуды — з два пуды!..

— Ну, выдушы, хто табе твар так распэндзляваў? Ці можа стада катоў вясняных па табе любоў сваю-каханне пачынала-танцавала? Не раві, на ручнік, выцірайся, грым здымай кіношні!.. Ой, Анюта, глянь у люстэрка, ты ж як дачка Пікасо, Сязана, Гогена!.. Хто яны такія, пытаеш? Ды маляры-пэцкары, кажуць пра іх: вялікія, дзе там ды ў чым іх веліч? Я не прыкмеціла — не ўцяміла; бачыла малюнкі, а там, дзе жывот — вока маргае, дзе вочы — локці вырастаюць, дзе грудзі — там плечы, грудзі — на лытках умясціліся, дзе твар там задняе месца са шпараю — усё пакілбашанае несусветна!..

— А ведаеш, ёсць і такія паны артысты: бяруць катоў, сабак, лапы іх мажуць усялякай фарбай-краскай, шэрсць распэцкваюць у розныя колеры, пускаюць зверанят на палотны, качаюць іх тэндысенды — каб ты бачыла, якія шэдэўрыбагамазы выходзяць! Як мазніца твая, страшылішча, сёння!.. У Луўр бягуць, у Парыж нясуць прадаваць, ці ў Амстардам-Лондан пруць-ташчаць, грашышчы ў кішэні напіхаюць! За што ім еўра-долары сыплюць — не пайму. Я ж бы яшчэ і лепш умела, ды не адважуся, сама б пакачалася або са сваім Маркам! Прыемнасць — і маёнтак! Ды да ўсяго рукі не даходзяць, хоць галавешка працуе — тэхніку варочае!.. Гэта цяпер, Анька, **sztuka współczesna** завецца!.. Слухай, а адзін шахер-махер абізяну-маўпушымпанзіцу купіў, на арцістку сабе, пянершу новага трэнда паставіў, праўданькі, я чула-чытала; ды тая ўміг яго ў перадавікі і піханула!..

— Ну хопіць сморкаць, кілішачак наліла? Дай, Божа, заўтра тожа! Анька — а цябе хто ў арцісткі-маляванкі запісаў? Ведаеш, табе яшчэ на шыю чорны квадрат Малевіча павесіць і ў дым у Мадрыд-Рым шпарыць — віз цяпер не трэба, білет бяры: **„konduktorze łaskawy zawieź nas do Warszawy”**... Хто гэты Малевіч? Ён трохі польскі, трохі рускі, а квадрат? Анюта, каб я табе пра ўсе квадраты, чорныя і белыя, што я бачыла-датыкала-нюхала, расказала — табе б цераз лоб твой найбольшы перпендзікуляр праехаў бы, нарысаваўся б сам, як у тых арцістаў-свістаў!.. Што за слова такое? Я й сама не ведаю, але ж мне падабаецца і да цябе пасуе!..

— Ну, годзе, будзе, перастань, яшчэ налі маласць, пасмакавала, што значыць — кампанія, мужыкоў тут разумець часам трэба; хто скрыўдзіў — дай, дагадаюся, што за антыхрыст з ночы цёмнай!.. Што — за Ігарком тваім — нашым — яна ўсё мучаець-цярзаець? Я ж адразу ўзнала, замулянку гэту, сынавую тваю, пуза голае — вулічнае!.. А як Чэсік, унучак твой, ягадачка мая чорненькая, пэўна зусім схэз, не корміць цыцкай — вісець грудзі будуць! — каб табе іншае нешта абвісла, мядзведзіца-лісіца ты рыжая! Чарапаха з Галапагас!.. Супікаў не варыць, маці — што не мае нічога ў хаці! Пачакай — дабяруся я заўтра да цябе, калаўротак ты паламаны, бо яна ж усё сабе на пазуры-рукі-ногімардаватую пазалоту, безустыдніца, хавае! Церніца расхлёстаная!.. І жывеі ты ў Беластоку далёкім — згіне малышатка, Чэсік, як мышка маленькая, як матылёк пад дажджом!..

— Ты як часта бываеш там? — Разы тры ўдзень, хаджу, мама... Не пускае і так... — Толькі тры? Дзверы закрывае? А сілы няма? Разбяжыся — як я калісь да цябе, ты ж тожа мяне не падпускала блізка нават; ды й у вароты лу-па-ні-і! Каб дом хадуном казачка затопаў, у прысядку пайшоў!..

— Так значыць, мадам Нэллі, цябе свякруху законна-прававую, да малюнкаў пікасоўскіх даводзіць?.. Памятаеш, я ж табе цвердзіла: пільнуй Ігарка! Каб гэта арангутаніха адразу не агірачыла — вярхом не села пры першым спатканні! „Пільную, мама, пільную, цёшчка!” Дапільнавала: яны з жывацішчам Нэльчыным ледзь у царкоўныя вароты ўтарабаніліся-пралезлі, бацюшку да сцяны прыперлі — што аж гікаць пачаў! Думала, вянчаць не пачне, пераляканы!.. Хоць бы прыгажэйшую якую на бівак з Ігарком адправіла! „Гляджу!” — крычала ты заяўляла... — Мама, думала — універсітэт, французская мова, сацыялогія... — У іх была любоў французская, не мова! Сацыялогія — пра народы Палінезіі і Патагоніі з Папуасіяй, а пра сваё роднае — ні бэ — ні мэ — ні кукарэку! — Чарку напоўні, Анька, горла аж задрыжала-захвалявалася-перасохла; па тры разы бываеш там і ўсё на нуль градусаў! Дзверы закрыла, а балкон е-е? Камяняку бяры ды ў аконца адно-другое — цуплуп-браздэнк! Прачысціла б шыбачкі ёй, яна ж іх ад вякоў не мые, святла ўжо не прапускаюць!..

— Была, мама. У халадзільнік-лядоўку заглянула, ерундой заложана, а вялічэзная полка зусім пустая-голая.

— Я ж кажу, доця, глянь на яе задніцу, як яна носіцца; колькі на спадніцу трэба? Яе меркай — пяць сантыметраў, якія гэта выдаткі? Голай попай верціць, а пярэдніца — я падгледзела! — як мыш лятучая ўверх бы шмыганула, каб стрынгамі не падвязалася, во як! Ногі зусім голыя (брые яна іх, але!) — ад гэтае мінібздыні!..

— Значыць, выходзіць, Чэсік там заліваецца плачам, някормлены, такая яна ў нас „насэр-матэр”, прымеціла ты? Яна сабе кальцо-круг на пупок залажыла! Цігра бянгальская; я б ёй пастронак-аркан-лясса прывязала, ды вадзіла б па вуліцы на паказ, як быка-бугаішча-расплаДоўніка за ноздры за пастронак цягаючы! Мандзючку гэту, вялікамястоўніцу!.. Ігарка не пытала? За ейны круг ён, што, хватаецца-падцягваецца? Каб жывот збавіць-зменшыць? Ну, Анюта, глянем мы заўтра абедзве на пляжавічку гэту, будзе ў яе **„Naczelna Izba Kontroli”!..** — А Ігарок, пузішча ў яго чаму такое? Ты яго самым мёдам карміла, пасля абкладала? Смяюся часамі — мо і добра, што Чэсік у іх рана выскачыў — як ракета, бо цяпер то як? Якую ёгу ім цяпер трэба — перакладзіну: там рукі, там ногі — факірскую, камасутру стасаваць? Пры жываце-грузавіку Ігаркавым, ягоным?..

— Але, давай, абмазгуем: Чэсік кашкі не есць; малака цыцчынага ад гэтай флёндры-баракуды не п'е; пялюшкі, гаворыш, брудэча, што — на памперсы не хапае? Кашулька зашмульцавана, гаворыш; нагавічкі запэцканы, боцікі паабіваны; вушкі заклеены; носік смаркачалі-гілямі зарос... І ты глядзіш, маўчыш, а ў зяпу — макіяж яе салонны!

— Мама, але яна мяне выгнала каторы раз! — Кажу, доньцю, грошай нібы бракуе, а кольцы ніклёвыя ў жывот уставіла і ў цыцку-піцку, такое тэлевізар паказваў, дальбог, а наш каўдуністы Ігарок, баязлівец, і слова не шапне, а трэба было б рысавай шчоткай праехацца ёй па лабэсіне, дый была б тут уся працадура!..

— Чым жа, Анька, канчаецца ваша спатканне-рандэву? Яна цябе пасылае. Кажаш, і д-а-л-ё-ё-ё-ка! Няўжо і трасу абазначае? Цераз Венгрыю? Чаму адсюль, не казала? О, і Кіпр? Чад нават? Габон-Анголу ў Фальклланды-Мальвіны? Маць чэсная — што за даль! І білет дала? Ці на гапу-зайца? Гэта блізка Аргенціны. Гэта за першым разам, а потым? У другі бок? Як у песні: „дан прыказ яму на захад, ёй у другую старану”; і свету не хопіць, праз што ляцець-ехаць адправіла? Акіян? Амерыку? Якую — што побач Канады? Ну гэта цяпер у нас „самая дружэственная страна”, ЗША — значыць, у сваіх; Нью-Йорк пабачыла, пекла гэтае? Цераз Гаваі-Ганалулу — што за назва, га? У Японію, дзе вішні цвітуць? Ну што ж, Аненцыя, трасы н-е-п-а-з-а-б-ы-ў-н-ы-я, праўда, с-т-о-л-ь-к-і ў цябе курортаў, пляжаў, какосаў, пальмаў благадаць райская, карыстайся, бо на старасць т-у-д-ы і не пападзеш!..

— Нявестачка, а цяпер супікам-капустачкай угасці, чую як пахне-смакуе, ад мяне навучылася, каўбаскай здарова заносіць, плюхні — пад суп толькі п'яніцы не п'юць; яны пад агурчыка-сялёдачку... Успакойся, маці, пойдзем палатно ткаці, заўтра мы ў мадамы нашай, абедзве, і ў Аўстралію пуцёўку атрымаем, пабачыш, яна геаграфію знае!..

— А цяпер скажы, маладзіца, колькі разаў, мілашка-душачка, ты м-я-н-е, за ўсе мінулыя гады т-у-д-ыжп-а-с-ы-л-а-ла, га? Трэба і табе, у век падарожжаў, не ўсё ў хаце сядзець сіднем! Дзяўчына дарагая, свету пабачыць, розум пашырыць, родненькая! Глянь, які чар самейны! Ты ў Акапулька — у Мексіку, ты ў Каломба — у Шры-Ланку, на Яву — у Сурабаю — а я ўжо т-а-м с-я-д-ж-у! Цябе с-у-с-т-р-а-к-а-ю-вітаюся! Свякруха твая; с-ю-д-ы ж ты мяне, колькі гадоў раней п-а-с-л-а-л-а?!. Калі я цябе за Ігарка ўчыла-паказвала, а ты пружынілася — акунём ставала, у яка змянялася! Да Чэсіка там цяпер супольная дарога, царэўна-прыгажуня, у дзверы не пусцяць — у акно ўлезем, сцэну старануем; не гаруй, Анька, якая дзе халера, скажы, на мяне глянь, свякруху возьме-адалее-перамажа? Давай, пасудзіну памыем, і за работу бярэмся, за гэтым я да вас, толкам гаворачы, і прыехала, на крыллях прышыбавала!..

*(працяг будзе)*

**Марыя САШКА**

ISSN 0546-1960